# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 42 (304) 25 — 31 кастрычніка 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!


# ПРАСВЯТАЯ ПАННА МАРЫЯ



21 кастрычніка ў Мінску на плошчы Свабоды адбылася падзея, якую доўгія гады чакалі ўсе католікі нашай краіны.

У галоўным касцёле Прасвятой Панны Марыі прайшла рэкансакрацыя — паўторнае асвячэнне сабора, вяртанне Храма ў сваё звыклае лона.

На пачатку XVIII стагоддзя касцёл насіў імёны Ісуса, Марыі і Барбары, і тады ж, у 1710 годзе, ён быў упершыню асвячоны. Напрыканцы стагоддзя яго перайменавалі ў кафедральны касцёл Прасвятой Панны Марыі.

Падчас Вялікай Айчыннай храм быў часткова разбураны, але святыню ўсё ж удалося выратаваць. Выратаваць для таго, каб потым яе зачыніць. І пасля невялікай рэканструкцыі размесціць там спартыўнае таварыства "Спартак".

Праўда, у 1983 годзе спецыялізаваныя навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні Міністэрства культуры БССР пачалі распрацоўку праекта рэстаўрацыі сабора. А праз дзесяць гадоў згодна з рашэннем Савета Міністраў касцёл быў вернуты католікам. Але толькі цяпер рэстаўрацыйныя работы скончаны цалкам.

І вось — свята! На ўрачыстасці, якія адбываліся пад кіраўніцтвам кардынала Казімежа Свёнтака, прыехалі спецыяльны пасланец Папы Рымскага Іаана Паўла II кардынал Эдмунд Шока, святары з краін СНД і Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

У гэты ж дзень шаноўных гасцей прыняў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У сваёй прамове Прэзідэнт, у прыватнасці, адзначыў, што гэта знамянальная падзея з'явілася вынікам дэмакратычных пераўтварэнняў, што адбываюцца цяпер на Беларусі. І "сёння росквіт рэлігійнага жыцця ў нашай краіне набыў такі размах, што, паводле дадзеных шматлікіх незалежных сацыялагічных службаў, рэйтынг даверу насельніцтва да царквы знаходзіцца на першым месцы, пераўзышоўшы ўсе рэйтынгі палітычных структур і асобных лідэраў".

Прэзідэнт таксама зазначыў, што за апошнія гады колькасць вернікаў на Беларусі павялічылася з 10 да 50 працэнтаў ад агульнага ліку насельніцтва. Далей Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ў кожнага народа існуюць дзве вялікія каштоўнасці — нацыянальная і рэлігійная, якія заўсёды павінны быць арганічна збалансаванымі. Размова ідзе аб тым, каб умець "па-чалавечы" вырашаць нацыянальныя і рэлігійныя праблемы, каб ні ў якім разе не зняважыць пачуцці вернікаў усіх канфесій, што існуюць у дзяржаве. І гэты галоўны прынцып, падкрэсліў Прэзідэнт, ляжыць у аснове ягонай палітыкі, якая абапіраецца на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

Кардынал Эдмунд Шока перадаў ад Папы Рымскага Іаана Паўла II прывітанне і благаславенне, а таксама ўручыў кіраўніку дзяржавы памятны медаль, прысвечаны 19-годдзю знаходжання Папы на прастоле Ватыкана.

Такім чынам, абнаўленне кафедральнага сабора ў беларускай сталіцы з'явілася не проста актам адраджэння каталіцызму, але і працягам адраджэння ўсяго хрысціянскага свету.

**Б.К.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

**КАНФЛІКТ**

# СХОД, ЯКІ НЕ АДБЫЎСЯ

***20 кастрычніка ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы павінен быў адбыцца прафсаюзны сход, на які сабралася вялікая колькасць акцёраў і супрацоўнікаў тэатра, а таксама журналісты. Пачатак сходу адцягваўся. Купалаўцы павінны былі атрымліваць заробак, але яго не давалі — пасля сходу. Тэлебачанню было забаронена рабіць здымкі. І вось сход нарэшце пачаўся і... скончыўся. Што за дзіўная сітуацыя, і чаму такая цікавасць да звычайнага прафсаюзнага сходу?!***

Тое, што Купалаўскі тэатр перажывае сёння не лепшыя часы, вядома даўно, пра гэта шмат гаварылася і пісалася. З вострымі творчымі і матэрыяльнымі праблемамі калектыву добра знаёмы і ў Міністэрстве культуры Беларусі. У сакавіку гэтага года на калегіі міністэрства разбіраліся ў складанай сітуацыі купалаўцаў. Вынікам яе стала прызнанне работы адміністрацыйна-мастацкага кіраўніцтва тэатра нездавальняючай: была вынесена суровая вымова мастацкаму кіраўніку Валерыю Раеўскаму, а Міністэрству культуры калегія рэкамендавала перагледзець кантракт з дырэктарам тэатра Іванам Вашкевічам.

13 кастрычніка быў прызначаны новы дырэктар, ім стаў акцёр-купаловец Генадзь Давыдзька. Такая знешняя канва канфлікту і скандалу, якога ўсё ж пазбегнуць не ўдалося, тым больш, што наспяваў ён даўно.

Прызначэнне новага кіраўніка тэатра купалаўцамі было ўспрынята неадназначна. Бо многія акцёры больш былі незадаволены творчай палітыкай Валерыя Раеўскага, чым дрэннай працай Івана Вашкевіча.

Сярод крыўд на мастацкага кіраўніка Валерыя Раеўскага — яго нежаданне ўлічваць творчы патэнцыял акцёраў, якія падоўгу "праседжвалі" на другасных ролях альбо наогул былі без працы, несфармуляванасць рэпертуарнай палітыкі тэатра, немагчымасць рэжысёраў поўнасцю рэалізаваць сябе. У эмацыйным парыве ўзнікла пытанне: чаму адказнасць панёс толькі дырэктар тэатра Іван Вашкевіч? Пазначыўся раскол. Вельмі знаёмая сітуацыя. Нешта падобнае адбылося ў "МХАТ", у якім творчыя праблемы прывялі да расколу тэатра, што нікому не прынесла карысці. Купалаўцы ж расколу не хочуць і імкнуцца пазбегнуць яго. Усе жадаюць, каб тэатр выйшаў з абвалу праблемаў, пераадолеў крызіс, стаў "сцэнай № 1" у Беларусі, як было некалькі гадоў раней. Усе мараць пра абнаўленне тэатра і яго выхадзе на новы творчы ўзровень. Але кожны бачыць гэта па-свойму.

Каб неяк разабрацца ва ўсім, купалаўцы склікалі сход, на якім было вырашана напісаць адкрыты ліст да прэзідэнта краіны з просьбай прааналізаваць сітуацыю. Праект ліста меркавалася разгледзець на наступным сходзе. Сход сабралі, выбралі старшыню і сакратара, абвясцілі парадак дня, за які ўзнікла прапанова прагаласаваць. Большасцю галасоў вырашылі ліст не пісаць. А раз парадак дня не прыняты, дык сход не патрэбны. Пачуліся рэплікі: "Пайшлі атрымліваць грошы!" Такім чынам, сход, які так доўга рыхтаваўся, на які ўскладваліся пэўныя надзеі і якога пабойваліся, быў закрыты, так і не пачаўшыся.

Сход закрылі, разышліся, а пытанні засталіся.

На падставе чаго быў звольнены дырэктар тэатра Іван Вашкевіч?

Ён быў звольнены ў сувязі з тым, што ў яго скончыўся тэрмін кантракта, падоўжыць які Міністэрства культуры, як наймальнік, не палічыла патрэбным. Іван Іванавіч шмат зрабіў для тэатра, якім кіраваў 15 гадоў, на пасадзе дырэктара адзначыў свой 60-гадовы юбілей, але настаў час саступіць месца маладому і энергічнаму Генадзю Давыдзьку. Кандыдатуру новага дырэктара доўга абмяркоўвалі ў міністэрстве, раіліся з вядучымі артыстамі тэатра. А Івану Іванавічу прапанавалі пасаду намесніка начальніка аддзела ў Міністэрстве.

На ўсё гэта Іван Іванавіч запярэчыў: "Вакантнай пасады ў міністэрстве няма, а акрамя гэтага, кантракт быў заключаны са мною да 1999 года".

Аднак каму лепш, як не міністру культуры Аляксандру Сасноўскаму, ведаць пра вакансіі ў яго міністэрстве, а калі наконт кантракта, дык вось што ён сказаў: "Адразу пасля калегіі ў красавіку мы сустракаліся з Іванам Іванавічам і перарабілі кантракт такім чынам, каб свой юбілей ён адзначыў на старой пасадзе. Пайшлі насустрач чалавеку...". Але ўзнікла яшчэ пытанне. Іван Вашкевіч лічыць кантракт несапраўдным, і, каб звольніць яго з пасады дырэктара, міністэрства, маўляў, павінна прыслаць паведамленне пра гэта ў прафсаюз, членам абкама якога ён з'яўляецца, не пазней чым за два месяцы.

Юрысты міністэрства культуры запэўнілі, што кантракт з Вашкевічам быў аформлены юрыдычна правільна. У КЗАП сапраўды ёсць артыкул 238, па якім прафсаюз павінен быць папярэджаны, што члена прафсаюза звальняюць па ініцыятыве наймальніка, не пазней чым за 2 месяцы. Але Івана Ваш-

***Вядома, ніхто не зазірне ў душу чалавека, які ўжо ад нас пайшоў, — словамі так проста не выкажаш сапраўдную прычыну, любыя тлумачэнні будуць банальнымі і не да канца праўдзівымі.***

# А СМЯРОТНЫЯ ЛІЧБЫ РАСТУЦЬ...

## Роздум пісьменніка



Можа, з усіх маіх апошніх паездак найбольш запомнілася зусім нядаўняя, у Карэлічы, на Дзень Настаўніка. І не таму, што яна нядаўняя, што дарога туды была цяжкая: так круціла непагадзь, так абрынуўся дождж і вецер на дарогу, што і за доўгія гады не помнілася такога (паводле газет, на Магілёўшчыне ў той дзень пранёсся ўраган).

Нечаканым было тое, што ў Карэлічах вырашылі сумясціць два святы — якраз у гэты дзень сюды прывозілі і Дабрадатны агонь з Міра, дзеля чаго меўся прыехаць епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый. Таму планавалася правесці свята на плошчы і запрасіць настаўнікаў з дзецьмі ў царкву. Але з-за непагадзі (вырвала дрэвы і згасіла электрычнасць, так што нават Дом культуры аказаўся "выключаным" з культурнай праграмы) вырашылі нават выступленні правесці ў царкве.

У царкве ўпершыню ў жыцці мне давялося выступаць таксама толькі сёлета, падчас культурна-творчай экспедыцыі "Шлях да святыняў" — якраз жа ў Міры, калі мы заехалі туды як у першы свой пункт прызначэння, і запрасілі мяне прыехаць на Дзень Настаўніка загадчык аддзела культуры Уладзімір Тананка і намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Самец. Даўшы згоду, я тады і не ўспомніла, што дзень 5 кастрычніка — з тых дзён, калі я заўсёды іду на памінанне кагосьці з блізкіх. На гэты раз — бабулі Вольгі, простай сялянкі з вёскі Забелле, якая, па сутнасці, і была маёй самай лепшай настаўніцай, бо заклала ў душу, можа, самае галоўнае — шанаванне Бога і нязгасную любоў да Мовы.

Я не змагла з-за паездкі пайсці ў той дзень у храм, але ў храме ўсё роўна апынулася. Але перад гэтым, едучы і гледзячы, як шалёна зганяюць ваду з ветравога шкла "дворнікі", успаміналa яе, маю высокую, прыгожую, як візантыйская фрэска, з карымі, ужо трохі бляклымі, але мякка-аксамітавымі вачамі бабулю — вось мы ідзем з ёю на Тройцу ў далёкую, за пяць кіламетраў, Паўлаўскую царкву (якую ў 60-я гады разбурылі самі затлумленыя нянавісцю і нацкаваныя ўладамі людзі), пахне маладой бярозай, сонца толькі выглядае з-за далягляда, і мяккі пыл яшчэ халаднаваты для нашых босых ног (пантофлікі нясем у руках, бо беражэм абутак). І яна гаворыць — яшчэ на той, не разбуранай "трасянкай" і маскультурай мове, якая пераліваецца, як вада ў недалёкай зіхоткай крынічцы, адкуль мы, нахіліўшыся, п'ем ваду такога смаку, які потым для мяне не паўтараецца ніколі, бо гэта — смак дзяцінства...

Я ўспаміналa яе, як заўсёды, з пачуццём светлым і ўдзячным — бо ў сваім цяжкім, задушаным непасільнымі падаткамі ўдовіным жыцці яна знаходзіла для маленькай унучкі такую пяшчоту і дабрыню, на якую здатныя толькі людзі высокай духоўнасці — а яна ледзь умела пісаць. І яшчэ помніцца, яна гаварыла, што без радасці дзеці не вырастуць, як без сонца не вырасце нішто на зямлі...

Паездка таксама аказалася нечакана радаснай — ад амаль містычнай хвіліны, калі якраз у той момант, калі Дабрадатны агонь прывезлі да царквы, раптоўна, як па нечайму загаду, спынілася шалёная непагадзь і выблiснула сонца, і да прыезду назад у Мінск, калі праз навальнічныя хмары, спачатку па кавалках, а пасля і прабіўшыся ўся, заззяла каляровая, сакавітая вясёлка, а над ёю — яшчэ адна, так што наша машына як бы ўязджала ў казачную браму, што паўкругам вісела над намі так нізка, што, здавалася, можна было дастаць яе рукой... Было цікавае выступленне старшыні райвыканкама Івана Міхайлавіча Шматко, узвышанае — епіскапа Навагрудскага і Лідскага Гурыя, з якім прыехалі і спявалі на клірасе семінарысты з Жыровіч, а пасля — шчырая гаворка пра сённяшнія праблемы духоўнасці, якія трэба рашаць разам.

Праходзіць час, але нене дый успомняцца некаторыя аспекты тых размоваў.

Паўтарыць услед за многімі іншымі, хто, як кажуць, у званы б'е, што стан нашага грамадства — катастрафічны, гэта не сказаць нічога. Смяротнасць перавысіла нараджальнасць у многіх раёнах — гэта таксама не навіна.

Але ёсць сярод страт лічба, якая асабліва ўражвае. Гэта — самазабойствы. Яны ўзрастаюць у нейкай невытлумачальнай, жахлівай прагрэсіі, напрыклад, на дзесяць працэнтаў штогод у адной толькі Віцебскай вобласці. Многія называюць адной з прычын нізкі ўзровень жыцця. Але пасля вайны жылі горш і, аднак, самазабойствы былі досыць рэдкімі. На мой погляд, адбыўся нейкі надлом нацыі. Усе мітрэнгі, якія выпалі на долю беларусаў у стагоддзях, усе гэтыя паланізацыі, русіфікацыі, пераход у унію і наадварот, здрады магнатаў і шляхты, гвалтоўнае насаджэнне атэізму і савецкага ладу, выхад з яго, а цяпер —вяртанне, нарэшце, нягоды Чарнобыля — усё гэта, мабыць, пераўзышло духоўны патэнцыял народа.

Помніцца, у працах а.Паўла Фларэнскага ёсць здагадка аб тым, што мова ёсць свайго роду кімберлітавая трубка, дзе захаваны алмаз, яна з глыбінь звязвае сённяшняга чалавека з яго продкамі, мінулым. Перарвецца гэтая "вертыкаль" — няма водгуку, глуха ў сэрцы чалавека... Магчыма, гэта толькі маё разуменне — але ці не перарвалася гэтая сувязь настолькі, што чалавек, страціўшы яшчэ і сувязь з Богам, ужо не можа супрацьстаяць нават самым малым непрыемнасцям, не кажучы ўжо пра сапраўдную бяду?

Мяркуючы па тых шасці выпадках самазабойства, якія адбыліся за гэты год у глыбіннай віцебскай вёсцы, куды мы часта прыязджаем да родзічаў, ні ў кога з тых, хто добраахвотна развітаўся з жыццём, сапраўдных вялікіх праблем не было. "Вялікія планы, з імі не спраўляліся", — так сказалі мне пра двух работнікаў лясгаса, што адзін за адным павесіліся. Малады хлопец патануў у вадзе п'яным. Другі, саракагадовы мужчына, утапіўся знарок, бо — і тут ужо пачынаецца нейкі чорны гумар — "не з тым" здрадзіла жонка. Ён яшчэ цярпеў, калі ў яе перабывалі іншыя. Але апошні, па яго ных словах, "яшчэ горшы за мяне", і гэта яго падкасіла... Яшчэ адна пяцідзесяцідвухгадовая жанчына павесілася на яблыні якраз насупраць хаты свайго жанатага сына — ёй здалося, што яна невылечна хворая, а ён яе не шкадуе.

Вядома, ніхто не зазірне ў душу чалавека, які ўжо ад нас пайшоў — словамі так проста не выкажаш сапраўдную прычыну, любыя тлумачэнні будуць банальнымі і не да канца праўдзівымі. Хто перадасць тое жахлівае пачуццё адзіноты і нейкай крыўды на "ўсіх і ўся", якое відавочна было ў іхніх душах? Што ж тычыць меркавання аб самазабойстве як аб адным з самых страшных грахоў, з-за якога нельга было ні хаваць самазабойцу на асвячонай зямлі, ні нават памінаць яго і маліцца (для гэтага ёсць спецыяльны дзень), то для выхаванага ў атэізме гэта — пусты гук. А між тым у ранейшыя часы гэтае пакаранне было сапраўды важкім, бо, як, што яно ляжа цяжкім грузам на дзяцей і родзічаў, таксама стрымлівала чалавека, які быў упаў у адчай.

Сёння, калі няма ніякіх, па сутнасці, духоўных арыенціраў, такім арыенцірам спрабуе быць Царква (ці Касцёл). Але і яны перажываюць цяжкасці. Каталіцызм і праваслаўе даволі цесна пераплявіся ў нашай краіне — і ў тым яе адрозненне ад Расіі. Многія праваслаўныя роды пераходзілі ў каталіцызм і наадварот — напрыклад, спачатку праваслаўным быў род Вішнявецкіх (з яго Уршуля Радзівіл, паэтка і драматург), род Касцюшкаў, многія іншыя. Але імёны гэтыя — здабыткі нашай культуры, гісторыі, і іх падзяліць па веравызнанні немагчыма.

Важным для інтэлігенцыі момантам ёсць мова ў набажэнстве. Вядома, хацелася б, каб у беларускім храме набажэнства як хутчэй вялося на нацыянальнай мове. Але гэта таксама вельмі няпроста — па розных прычынах, якія выходзяць за рамкі гэтага артыкула. Заўважу толькі адно — чамусьці тыя, хто папракае за гэта царкву, не надта прыходзяць на набажэнства, якое ў Петрапаўлаўскім саборы штотыдзень праходзіць па-беларуску (і як жа цудоўна спявае хор брацтва Трох Віленскіх мучанікаў і а.Георгій Латушка).

кевіча звольнілі па другім пункце 29 артыкула — заканчэнне тэрміну кантракта.

Прычыны і сутнасць канфлікта зразумелыя, але дзе выйсце? Відаць, нельга абвінавачваць у той сітуацыі, якая склалася ў Купалаўскім тэатры, нейкіх асобных людзей. Вінаватыя ўсе... Прычына не ў старым ці новым дырэктары, не ў Раеўскім. Прычына ў адносінах: да сваёй працы, да калег, да тэатра. Тэатр пачаў ператварацца ў гандлёвы рад, дзе размовы ідуць толькі пра грошы, узнагароды, званні, дзе без усялякага сораму на свет белы выкідваецца рознае смецце. Трэба як мага хутчэй пазбавіцца ад гэтай хваробы. Кожны павінен зрабіць нешта сваё, каб канфлікт растаў, прыўнесці нешта новае і разам з усімі парадавацца, што гэта новае дало плён.

І па тым, што купалаўцы вырашылі сваімі сіламі разабрацца ў сітуацыі, не выносіць бруд за парог, па тым, што гэты сход не адбыўся, можна меркаваць — старэйшы беларускі тэатр справіцца з усімі праблемамі.

**М.Б.**

---

А яно, дарэчы, дае душы радасць, тую радасць, якой нам так не хапае ў жыцці. Якую мы часта не цэнім і не ўмеем цаніць.

Успамінаю яшчэ адну нядаўнюю паездку. На гэты раз з дзвюма жанчынамі — журналісткамі Гізэлай Шварц і Хельгай Вернер у вёску Казыры да дваццацідзевяцігадовай Ганны Удавай, у якой з яе мужам Алегам ажно шасцёра дзяцей, з іх самай старэйшай Наташы 8 гадоў, а малодшаму Алесю 3 месяцы. Жанчыны прывезлі дзецям вопратку і цацкі. Пакуль ішла гаворка з імі, у хату набілася суседзяў. І адзін з іх недаўменна сказаў:

— Ну, адзенне, я гэта яшчэ разумею. А цацкі навошта? Лепей бы якіх прадуктаў прывезлі...

Гэтай маладой сям'і сапраўды жывецца цяжка: муж атрымлівае 600 тысяч заробку і яшчэ 600 тысяч на траіх сваіх дзяцей (ён быў удавец). Аня ж, паколькі не працуе, не атрымлівае нічога, і яе дзеці таксама. Ейны бацька трохі дадае са сваёй пенсіі, але ён цяжка хворы. Амбулаторны пункт — за дзесяць кіламетраў, у Каранях, там жа і школа, куды дзяцей возяць.

Аднак жа, гледзячы, як учапіліся дзеці за прыгожыя цацкі, як разгарэліся ў іх вочы, я падумала, што, можа, якраз цацкі для іх больш важныя, чым нават і ежа (галодныя яны ўсё ж не сядзяць). Цацкі, магчыма, далі ім радасць — а можа, з ёю і нейкі дадатковы імпульс да жыцця. Бо, як сведчаць педагогі, падчас аднаго апытання нават дзеці напісалі ў сачыненнях, што больш за ўсё ім хацелася б — памерці...

Што нас выратуе? Царква? Нацыянальная ідэя? Мы самі, калі паспрабуем угледзецца ў сябе?

А Час ідзе. І злавесныя лічбы нарастаюць...

**Вольга ІПАТАВА**
**Фота Ягора ФЯДЗЮШЫНА**

---

# ... ПАСЛЯ "РЭЗКАГА АБВАЛУ"

*Каб вызначыць, якімі якасцямі павінен валодаць кіраўнік творчага калектыву, далёка хадзіць не трэба. Дастаткова прыйсці ў камерную залу касцёла Святога Роха, што на Залатой горцы, у дзень, які пазначаны выступленнем Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, і паглядзець, як Ігар Мацюхоў "кіруе" сваім калектывам. Я так і зрабіла, балазе 7 кастрычніка канцэрт быў прысвечаны 30-годдзю творчай дзейнасці Раісы Шытавай, салісткі Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь ды і праграма была надзвычай цікавай: Струмскі, Часнакоў, Бартнянскі, Бах, Качыні, Чайкоўскі. У тым, што мінчукі любяць духоўную музыку і наш камерны, можна было пераканацца ўжо пераступіўшы парог касцёла: месцаў на ўсіх жадаючых не хапіла, і некаторыя наведнікі канцэрта падрыхтаваліся слухаць яго стоячы. На тварах людзей, што сабраліся ў невялікай зале касцёла, адпаведнай сваёй акустыкай акурат для выканання духоўнай музыкі і песнапенняў, — чаканне. Чаканне цуду ачышчэння, судакранання з вялікім Вечным музычным мастацтвам, якое заўсёды нясе прасвятленне душы. Магу засведчыць, што чаканне мінчукоў спраўдзілася больш як на 200 працэнтаў... У першым радзе — менавіта там было маё месца — добра відаць, як Ігар Мацюхоў умела, віртуозна дырыжыруе хорам. Ён наперад ведае магчымасці кожнага спевака і хору цалкам, ён ужо чуе наперад, як прагучыць хор у наступную хвіліну, і віртуознымі ўзмахамі рук накіроўвае, патрабуе і, урэшце, "дабіваецца" таго, адзіна патрэбнага гучання...*

*Угаварыць на інтэрв'ю Ігара Гаўрылавіча было няпроста: чалавек ён вельмі заняты, і, натуральна, кожная хвіліна ў раскладзе дня распісана наперад.*



***— Ігар, вы — мастацкі кіраўнік і дырыжор ад самага заснавання Дзяржаўнага камернага хору. Праз год будзеце адзначаць юбілей — дзесяцігоддзе. Раскажыце, з чаго ўсё пачыналася?***

***— Утварэнне нашага калектыву неяк адзін з прадстаўнікоў Міністэрства культуры параўнаў з нараджэннем чалавека. Гэта параўнанне, на маю думку, вельмі слушнае. Для з'яўлення такога калектыву неабходны быў шэраг умоў: трэба было, каб у 1988 годзе яшчэ "не астыла" перабудова, каб улады лічыліся з грамадскай думкай, каб было памяшканне, каб быў кіраўнік і, урэшце, каб былі грошы, каб была харавая база — тады быў маладзёжны камерны хор, — так і ўзнік наш калектыў. Вось такі збег абставін, такая база і папярэднічалі нараджэнню нашага калектыву.***

**— Што адметнага было за дзевяць гадоў існавання?**

— Было ўсялякае. І ўзлёты, і падзенні....

**— Пра ўзлёты ўсе ведаюць, раскажыце пра "падзенні".**

— Мы ўсё гэта вельмі складана перажываем, а на Захадзе псіхолагі ўжо прыйшлі да высновы, што ў творчых калектывах людзі, якія кожны дзень сустракаюцца, разам працуюць, на сёмы год абавязкова перажываюць псіхалагічны крызіс і надлом, і большасць з гэтых людзей ужо не могуць працаваць разам далей. І заўсёды ў такой сітуацыі знойдзецца падстава, якая папярэднічае "рэзкаму абвалу". Так было і ў нас. З калектыву ішлі людзі: са мной не так проста працаваць, у мяне вельмі высокія прафесійныя патрабаванні да спевакоў. Але вось якая справа: тыя спевакі, якія некалі працавалі ў мяне, "нарасхват" у іншых калектывах — гэтым я ганаруся.

**— Як вы працуеце з харыстамі?**

— Мне цяжка адказваць на гэтае пытанне, лепш было запытацца ў каго-небудзь з іх. Але прыкладна гэта так: адным разам магу іх любіць бясконца, другім — "адсцябаць" так, што надоўга запомніцца...

**— Як яны гэта ўспрымаюць?**

— Ва ўсялякім разе — з разуменнем, бо я ніколі не выказваю прэтэнзіі без падставы. Іншая справа, што ў хоры ўжо трэці год няма хормайстра і таму ёсць звязаныя з гэтым пэўныя цяжкасці.

**— А як ставіцеся да галоўнай салісткі хору — Раісы Шытавай? У вашым заключным слове да канцэрта быў намёк, што яны няпростыя — вашыя творчыя стасункі.**

— І гэта сапраўды так. Але маё асноўнае стаўленне да яе: захапленне і павага да таго, што дадзена ёй прыродай, яна валодае надзвычай многім. Гэта проста фантастыка, гэта вялікі талент. Таму можна, як кажуць, закрыць вочы на ўсё іншае. У дадзеным выпадку, трэба захоўваць для народа тое, што для яго ж і неабходна. Захоўваць па вялікім рахунку.

**— Які заробак на сённяшні дзень у спевака, ці адпавядае ён творчым высілкам удзельнікаў вашага калектыву?**

— Вы ведаеце, што заробкі вельмі нізкія.

**— Ці азначае гэта, што спевакоў вашага калектыву можна назваць энтузіястамі?**

— Не, я гэтага сказаць не магу. Аднак жа, што датычыць гэтага пытання, то яшчэ за савецкім часам у музыцы прысутнічалі элітныя людзі, людзі, якія былі заўсёды побач з уладаю і іх жыццё ў матэрыяльным плане было намнога лягчэйшым. Але былі і ёсць зараз музыканты, што самі сабе "прабіваюць" дарогу, а ім яе "не даюць". Становішча гэтых таленавітых людзей надзвычай цяжкае...

**— Як вам дапамагаюць улады?**

— Мы адносімся непасрэдна да Міністэрства культуры. Скажу адно, што за ўвесь час ад пачатку існавання нам ніколі і ні ў чым Міністэрства не адмовіла, але рэч у тым, што мы вельмі рэдка звяртаемся да іх з просьбамі. Перадусім я не з тых, хто просіць. Думаю, што ўлада на тое і ўлада, каб разумець творчых людзей, іх надзённыя праблемы.

**— Як часта камерны хор выязджае ў гастрольныя паездкі ў замежжа?**

— Па лініі дзяржавы мы выязджалі яшчэ ў савецкую эпоху. Тады ў Брацiславе мы запісалі першы ў свеце кампакт-дыск духоўнай музыкі. Зараз нашы паездкі ў замежжа непрыбытковыя. Калі нас адпраўляюць на фестываль, то трэба ўкладаць грошы і немалыя, а яны пасля не вяртаюцца, бо за выступленні на фестывалях, як вядома, не плацяць. Што датычыць кантрактаў, то гэта вялікая праблема. Вельмі мала ў нас людзей, хто гэтым займаецца, хто можа заключыць выгаднае творчае пагадненне.

**— Зараз вы збіраецеся ў гастрольную паездку па Беларусі. Ёсць складанасці?**

— Мы едзем у санаторый "Лельчыцы", у нас яшчэ чатыры выступленні ў школах. Выязджаем, не ведаючы, ці ацяпляюць там гасцініцы, а гэта важна, бо палова спевакоў у хоры зараз хварэе, не ведаем, у якіх умовах прыйдзецца выступаць. Ёсць і аб'ектыўныя складанасці, гэта ўжо ў стасунках з філармоніяй, — яны быццам бы не могуць аплаціць нашыя канцэрты. Магчыма, што наш калектыў не лічаць сусветназначным, як іншыя калектывы, якім у такіх выпадках аддаецца перавага. Што ж, я ніколі нікому не навязваўся і ніколі не імкнуўся быць да некага падобным...



**— Што для вас самае важнае ў жыцці?**

— Для мяне самае важнае, а значыць і самае высокае: Вера і Музыка. Так было заўсёды, так будзе і надалей. Увогуле, лічу што ў чалавека асобнага, ды й у нашым грамадстве наогул усё ідзе ад культуры. І не толькі ў высокім значэнні. Як чалавек сябе паводзіць у гасцях, як стаіць на сцэне, як ён гаворыць альбо спявае, нават як адкрывае рот — усё гэта вызначаецца адным словам — культура. Дык ці не час нам падумаць пра гэта, аддаць гэтаму належную ўвагу. Звяртаючы вялікую ўвагу на тэлевізары, магнітафоны, на аўтамабілі, мы забываемся, што і тут пэўным чынам вызначаецца ўзровень нашай культуры. Чаму? Ды таму, што, калі возяць у "Мерседэсах" мяхамі бульбу — гэта таксама паказчык культуры. На маю думку, трэба пачынаць з галоўнага — звярнуць увагу перадусім на сябе і на тое, што побач з намі...

**— Зараз пачаўся шасцідзесяты, юбілейны сезон нашай філармоніі. Як вы ацэньваеце агульны ўзровень нашай музычнай культуры?**

— Вельмі высока. У нас ёсць сапраўдныя зоркі сусветнага значэння: Ігар Алоўнікаў, Андрэй Кавалінскі, наш камерны аркестр, і гэты пералік можна доўжыць. Але здзіўляе адно: як у нас ставяцца да ўсяго гэтага. Калі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу ўжо разумеюць, што культурныя таленавітыя людзі — гэта генафонд нацыі, што іх трэба падтрымліваць і берагчы, то ў нас, на жаль, гэтага разумення няма. Увогуле, так было заўсёды, таленавітыя людзі — музыканты, пісьменнікі, мастакі — заўсёды карысталіся падтрымкай дзяржавы. Тут павінна быць адно з двух: ці дзяржава павінна быць моцная, ці павінны існаваць мецэнаты, якія маглі б апекаваць творчых людзей. У нашых сённяшніх умовах гэта немагчыма, і як я разумею, так ніколі ўжо не будзе.

**— Якая песімістычная нота напрыканцы нашай гаворкі!**

— Любая песімістычная нота пакрываецца такімі канцэртамі, які вы пачулі. Мне аднойчы давялося пачуць такое: "Ну і жыццё ў вас! Махай сабе рукамі і за мяжу выязджай!"

**— Надзіва прымітыўнае меркаванне...**

— Але яно існуе, ёсць такая катэгорыя людзей, што лічаць нас "спінагрызамі". Я хачу адказаць ім: "Давай-ка сам памахай рукамі і паглядзім — як у цябе атрымаецца?" Музыка — гэта напружаная, карпатлівая штодзённая праца. Але ў чым яе вялікая сіла? Вось яна толькі што была, вось яе ўжо няма, але яна ўсё яшчэ гучыць недзе глыбока ў душы, і душа пераўвасабляецца, становіцца прыгажэй, нешта грубае адлятае, нешта цёплае, пяшчотнае застаецца.

**З дырыжорам вяла гаворку Алена РЫГОРАВА**
**Фота Яна ГРЭША**



ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# КАЛІ АРКЕСТР ПЕРАСТАЕ "АДГАДВАЦЬ МЕЛОДЫЮ"

Не блытайце тое, што будзе праходзіць 27—29 кастрычніка ў ДК імя Дзяржынскага, з джазавым фестывалем, які традыцыйна праводзіць раз ці два на год Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Міжнародны джаз-фэст нам ужо абяцаны, але тое будзе зімой. А зараз нас чакае нешта зусім іншае, настолькі новае і наспелае, што цягне ўсклікнуць: нарэшце! — Рэспубліканскі фестываль эстрадных аркестраў.

Гэта азначае, што мы пачуем і пабачым тое, чым займаюцца на вялікай прасторы нашай краіны маладыя (большасць удзельнікаў — студэнты, ёсць і вучні) прафесійныя і самадзейныя (і тут часта сустракаюцца сапраўдныя таленты) музыканты, якія знаходзяцца ў пошуку (а больш за ўсё шукаюць і эксперыментуюць менавіта ў неакадэмічным напрамку музыкі). Фактычна ў галіне эстраднай інструментальнай музыкі мы ўжо шмат гадоў маем магчымасць назіраць толькі за дзейнасцю Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ, і яго ўдзельнікі — таленты еўрапейскага ўзроўню — заўсёды па-добраму здзіўляюць нас. Але, упэўнена, большасць слухачоў час ад часу задавала сабе пытанне: павінна ж дзесьці штосьці адбывацца яшчэ? Вось цяпер мы і атрымаем адказ.

Прыемна тое, што такі экскурс у творчасць мас праводзіць сам Дзяржаўны канцэртны аркестр, і на прэс-канферэнцыі, прысвечанай блізкаму фестывалю, кіраўнік аркестра М.Фінберг з вялікай цеплынёй гаварыў пра калектывы, запрошаныя для ўдзелу ў ім. Фінансуе фестываль Міністэрства культуры, такім чынам, усе мерапрыемствы па адкрыцці новых талентаў пройдуць на дзяржаўным узроўні, што прыемна ўдвая.

Ужо сам факт правядзення такога фестывалю пераконвае ў яго мэтазгоднасці. Але, акрамя таго што выканаўцы з розных гарадоў пачуюць адзін аднаго, а мы — іх, адначасова плануецца правядзенне своеасаблівых майстар-класаў самымі вопытнымі музыкантамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра. І, у рэшце рэшт, сярод выступаючых будуць вызначаны лепшыя — для ўдзелу ў Міжнародным джаз-фестывалі. А вось тое, што выклікае найбольш аптымістычныя думкі, — гэты фэст Міністэрства культуры ўнесла ў свой план і на наступны год.

Зараз жа мы пачуем вялікія аркестры і малыя ансамблі, інструментальныя і вакальныя групы — досыць розных саставаў з Мінска, Віцебска, Гомеля, Гродна, Полацка, Баранавіч. У якасці дырэктара фестывалю выступае А.Эскін — вядомы ў Беларусі і Расіі піяніст. Весці фестываль будзе журналіст Д.Падбярэзскі, афармляць сцэну — мастачка Г.Холад.

І, зразумела ж, на прэс-канферэнцыі, якую праводзіў М.Фінберг, не магло не прагучаць пытанне аб стасунках яго аркестра са знакамітай праграмай "Адгадай мелодыю". Адказ быў просты: практычна перасталі аплочваць працу аркестра, што абражае высокапрафесійных музыкантаў, сярод якіх — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Цяжка не пагадзіцца з гэтымі аргументамі, тым больш, што ўдзел у гэтай перадачы — не лепшая рэклама для іх.

Куды больш значны той факт, што Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ ператвараецца ў своеасаблівы прадзюсерскі цэнтр. І калі дагэтуль ад яго атрымлівалі "пуцёўку ў жыццё" толькі яго ўдзельнікі, то зараз аркестр займаецца яшчэ і адкрыццём новых імёнаў па ўсёй тэрыторыі Беларусі. І ўжо наш святы абавязак — прыйсці і падтрымаць тых, хто, магчыма, стане "беларускай эстрадай" заўтра.

**Ганна АЛАДАВА**

# ДАНІНА ПАМЯЦІ ГЕРОЮ — ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ



15 кастрычніка споўнілася 180 гадоў з дня смерці сусветна вядомага героя, самаадданага змагара за свабоду, роўнасць і правы чалавека Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі.

У Вялікай Савецкай Энцыклапедыі напісана, што ён паходзіць з Валыні. На месцы яго нараджэння перад заланцужанымі слупамі, што азначаюць месца, дзе калісьці стаяў дом, у якім жыла яго сям'я, пастаўлены камень з выбітым на ім тэкстам на рускай мове: "Здесь родился видный политический деятель Польши".

Хаця ўрочышча Мерачоўшчына — месца "ляжання" камяня з гэтым не зусім, мякка кажучы, поўным паведамленнем — адвечныя землі Старалітвы (Беларусі) — ніяк не Валынь, а Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, які тут нарадзіўся і імем якога названа самая высокая гара Аўстраліі, быў не толькі палітычным дзеячам Польшчы, але палітычным і ваенным дзеячам, нацыянальным героем ЗША і Вялікага княства Літоўскага, ганаровым грамадзянінам Францыі і Швейцарыі.

Тагачасная "савецкасаюзная" ідэалогія выштурхоўвала гэтага чалавека не толькі з тэрыторыі Беларусі, але і з памяці беларусаў. Дый і сённяшняя наша незалежная дзяржава не надта намагаецца вярнуць сабе слаўнае імя. Летась адзначалася 250-я ўгодкі з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі. Была праведзена навуковая канферэнцыя на радзіме героя, прайшлі ўрачыстасці ў Берасці. Але ўсё гэта было, калі не сказаць што сціпла, то на мясцовым, абласным узроўні — агульнарэспубліканскага прызнання гэтая юбілейная дата не атрымала. Цяжка ўспомніць, каб у школах і іншых навучальных установах праходзілі б заняткі, прысвечаныя жыццю і дзейнасці гэтага чалавека.

І сапраўды, памяць пра выдатнага сына беларускай зямлі павінна належаць перадусім яе маладому пакаленню. Гэта зразумелі ў Дзіцяча-юнацкай творчай асацыяцыі.

15 кастрычніка ў Мінску ў Рэспубліканскім каледжы мастацтваў адкрылася выстава твораў маладых мастакоў, прысвечаных Дню памяці Тадэвуша Касцюшкі. На выставе — партрэты героя, краявіды і побытавыя замалёўкі — мастацкае пераасэнсаванне часу, калі ён жыў. Побач з мастацкімі творамі дэманструецца дакументальная экспазіцыя. Тут дэманструюцца ксеракопіі архіўных матэрыялаў. Праўда, пакуль толькі можна ўбачыць экспанаты, якія былі дасланыя з Польшчы. Але, як запэўніў куратар і арганізатар выставы старшыня праўлення Дзіцяча-юнацкай творчай асацыяцыі Генадзь Хлобыстаў, на падыходзе дакументы з Уэст-Пойнцкай ваеннай акадэміі (ЗША), дзякуючы высакароднай дзейнасці саветніка амбасады Французскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Сержа Лаўроффа толькі што прыйшлі і таму яшчэ не паспелі трапіць на стэнды копіі унікальных лістоў Касцюшкі, Бамаршэ, Вальтэра з Парыжа. Можна спадзявацца, што неўзабаве яны папоўняць экспазіцыю выставы.

Але ўжо акрэсліваюцца станоўчыя вынікі гэтай падзеі. Юныя творцы, што пішуць карціны, складаюць і выконваюць музычныя і літаратурныя творы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці легендарнага земляка, героя-змагара, і ў той жа час іх калегі (Касцюшка сам быў мастаком — вучыўся ў мастацкай акадэміі ў Парыжы, і кампазітарам — пісаў невялікія п'есы, паланезы), не маглі не ўбачыць у сябе справядлівыя, вялікія ідэі, за якія Тадэвуш Касцюшка быў гатовы скласці сваю галаву. Тым больш, хлопцы і дзяўчаты бачылі, з якой павагай ставяцца да яго імя і памяці ў розных краінах свету.

На адкрыцці выставы

## ВІНШУЕМ!

***15 верасня 1922 года адкрылася Нацыянальная бібліятэка Беларусі.***

Сёлета 23 кастрычніка ў канцэртнай зале "Мінск" прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы", прымеркаваная да 75-годдзя галоўнага кнігасховішча краіны.

А 24 кастрычніка ў памяшканні Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся ўрачысты сход, які быў прысвечаны гэтай падзеі.

Мы, супрацоўнікі газеты "Культура", далучаемся да слоў віншаванняў, якія гучалі ў адрас выдатнага калектыву галоўнай бібліятэкі Беларусі.

# ЮБІЛЯР ЗВЫЧАЙНЫ. МАДЭЛЬ ДРУГАЯ.

***Няшмат існуе ў нас добрых культурных традыцый, але адна з іх з'явілася даўно і выконваецца трывала — традыцыя святкавання юбілеяў з абавязковым віншаваннем юбіляраў, якія часта толькі з гэтай нагоды атрымліваюць тое, што даўно заслужылі. І да чаго ж усё цяпер пераблыталася, калі нават святое — юбілеі! — адбываюцца незаўважна. Мабыць, адзіны ў нашай краіне дыксіленд "Рэнесанс", дасягнуўшы рэдкага для творчага калектыву ўзросту — дваццаць гадоў, — атрымаў, і тое — выпадкова, толькі два падарункі: аўдыёкасету, выдадзеную фірмай "Каўчэг", і новы статус — з самадзейнага зрабіўся філарманічным. Ну, самадзейным ён быў не з прычыны выканальніцкага ўзроўню (музыканты ягоныя заўсёды былі прафесійна адукаваныя), а з прычыны свайго гаротнага лёсу — так сабе, боўтаўся па Дамах культуры. Ды і статус філарманічны — другой мадэлі (гэта значыць, за гонар мець сваім "дахам" філармонію трэба пароўну дзяліць з ёй прыбытак ад канцэртаў).***

***І хацела б сказаць, што не даспадобы народу такая музыка, але чаму ж тады бізнесмены, якія маюць "у кішэні", з такім задавальненнем запрашаюць на свае прэзентацыі менавіта дыксіленд, а на рэдкіх ягоных канцэртах можна пабачыць такія ажыўленыя твары? Гэтая музыка ўяўляе ў наш час удалы кампраміс: яна пазбаўленая элітарнасці пазнейшага джаза, але ажыўленая ягонай імправізацыйнасцю — з аднаго боку, і не мае прэтэнцыёзнасці сучаснай "папсы", застаючыся адначасова не менш танцавальнай і забаўляльнай — з другога. Чаму б ёй у такім выпадку не зрабіцца масавым захапленнем, папыталася я ў кіраўніка дыксіленда "Рэнесанс" Мікалая ЛАПЦЁНКА.***



— У нас, наогул, адсутнічае духавая традыцыя. У часы майго юнацтва любіць духавую музыку было сорамна — шанаваліся гітары, што прабіваліся па "Голасе Амерыкі". Здаралася, у парку імя Чэлюскінцаў напрыканцы 60-х — пачатку 70-х гадоў ігралі духавыя аркестры, і хто ж пад іх танчыў? Толькі людзі сталага веку, ніводнага маладога чалавека там не было, і нікога не цікавіў узровень выканання. Дасюль у музычныя школы паступаюць, у асноўным, на аддзяленні фартэпіяна, гітары, вельмі рэдка — на духавыя інструменты. У гэтым сэнсе мы далёкія ад Еўропы, дзе існуюць добрыя духавыя традыцыі.

**— А хіба табе за 20 гадоў не надакучыў стыль вашай музыкі?**

— Не, гэтая музыка мне блізкая. Усе мы гадаваліся на савецкай эстрадзе, і на тым, што гучала нелегальна. Я маю на ўвазе рок-н-рол — дынамічны, праставаты, дыксіленд — таксама такі. І яшчэ падштурхоўвала думка пра тое, што гэтай музыкай больш ніхто не займаецца, мы былі адзіныя. Вайнштэйн зрабіў спробу стварыць дыксіленд, але той праіснаваў усяго толькі год.

**— Але чаму ўвагу вам надаюць толькі прыватныя асобы і камерцыйныя структуры?**

— А гэта прэстыжна. Ва ўсім свеце запрашаюць на банкеты два тыпы музычных калектываў: струнны ансамбль — на пачатку, а потым, калі госці "разыдуцца", пачынае іграць дыксіленд. Так заведзена.

**— Гэта значыць, дыксіленд у наш час мае толькі ўжытковае значэнне. Але чым жа вы жылі 20 гадоў, не маючы ні грошай, ні славы, калі нават статус "самадзейнага калектыву" нельга было скінуць?**

— Адзінай радасцю ўсіх самадзейных музыкантаў у савецкі час былі паездкі. Мы ж ездзілі і ў Тбілісі, і ў Душанбэ, і ў Куйбышаў, і ў Яраслаўль, і ў Калінінград, і ў Маскву, і ў Рыгу — усё за кошт дзяржавы.

**— Але якое-небудзь задавальненне вы атрымлівалі, скажам, ад публікі?**

— Адпачывалі душой мы ў мінскім джаз-клубе. А ў асноўным даводзілася выступаць перад працоўнымі — згодна з даручэннямі абкама і парткама. Якая там магла быць рэакцыя? Была аддача, калі мы кудысьці прыязджалі альбо калі тут нас слухалі замежныя госці, якія здольныя ацаніць наш узровень у параўнанні з еўрапейскім.

**— Калектыў цяпер знаходзіцца ў працэсе чарговай змены саставу, чарговай ломкі — ужо чацвёртай за ўсю сваю гісторыю. Чаму цяпер пайшлі ад вас музыканты?**

— Раней музыканты ў асноўным ад'язджалі ў Ізраіль. Цяпер таксама адзін паехаў — у Польшчу, і яшчэ трое, якія іграюць у брас-квінтэце і аркестры "Няміга", пастаянна на гастролях. І наогул кожны калектыў час ад часу прыходзіць да тупіковага стану, калі трэба штосьці мяняць. Мы ўжо столькі пераігралі, столькі ведаем — наспеў час рабіць шоу, а як бы я стаў "ламаць" сваіх старых музыкантаў, акадэмікаў — "людзей з яміны"?

**— Але гэта вялікая рызыка — мяняць састаў непасрэдна напярэдадні ўдзелу ў фестывалі беларускіх эстрадных калектываў?**

— Гэта вельмі карысна. Такім жа чынам і плаваць навучаюць: кідаюць чалавека ў ваду і назіраюць, як ён выплыве.

*Калі бачыш вядомых поп-артыстаў, заўсёды ведаеш, што за іхняй прэзентабельнасцю стаяць грошы, людзі, якія абслугоўваюць "зорку" і г.д. А калі глядзіш на музыкантаў з дыксілендаў, здаецца, што грошы тут ні пры чым: яны ж такія добразычлівыя і нясквапныя. І, бадай, толькі з нашымі калектывамі гэта праўда: іхні энтузіязм нічога не падмацоўвае.*

*А іншы раз, не-не ды і падумаеш: духавыя аркестры ў парках і кінатэатрах — неад'емны эпізод успамінаў нашых бацькоў, — гэта было, мабыць, так прыгожа. І як бы гэта магло ўпрыгожыць нашае сённяшняе звар'яцелае жыццё...*

**Ганна АЛАДАВА**

выступілі дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аўтар кнігі пра Тадэвуша Касцюшку "Паланез для касінераў" Уладзімір Емяльянчык, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Адам Мальдзіс, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.

Выстава сталася важнейшай падзеяй, якая па-за палітыкай аб'ядняла розныя, далёкія і блізкія краіны. Перад пачаткам імпрэзы ўзялі слова прадстаўнік амбасады Польшчы ваенны аташэ палкоўнік Мацей Валошык, пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэніэл Спекхард, Паверэны ў справах Швейцарскай канфедэрацыі ў Рэспубліцы Польшча і Рэспубліцы Беларусь Жан. Аліўе Кенж. Сярод запрошаных гасцей былі пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс, пасол Чэшскай Рэспублікі Душан Доскачыл, генеральны консул Эстоніі Уладзімір Рэдпап.

Яшчэ адзін немалаважны факт, што сведчыць пра вялікую пашану, якою карыстаецца імя нашага вялікага земляка ва ўсім свеце, — арганізацыі і правядзенню выставы садзейнічалі гэткія вядомыя фірмы, як Philips, Шварц Фарма, Бевалекс, Фортэ.

Пасля цырымоніі адкрыцця выставы адбыўся канцэрт, удзел у якім узялі навучэнцы каледжа мастацтваў, дзе сярод твораў выконваліся і творы самога Касцюшкі.

Самая светлая памяць пра героя — гэта памяць маладых сэрцаў.

**С.М.**

# ЯК ПРАЙСЦІ НА ВУЛІЦУ КАСЦЮШКІ?

17 кастрычніка ў Мінску ў "Гасцёўні Галубка" даніну памяці Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі аддалі мастакі творчай суполкі "Пагоня". У невялічкай акуратнай зале "гасцёўні" адкрылася выстава, прысвечаная 180-м угодкам з дня смерці нашага знакамітага земляка. Нягледзячы на тое, што выставу па сваіх памерах можна ахарактарызаваць, як камерную, яе экспазіцыя даволі разнастайная. Тут і жывапіс, і скульптура, і медальернае мастацтва, канверты, маркі. А азнаёміцца з выставай можна было пад мелодыю сусветна вядомага паланеза "Развітанне з радзімай", які напісаў паплечнік і сябра Касцюшкі Міхал Клеафас Агінскі.

На адкрыцці выступалі мастак Мікола Купава, гісторык Уладзімір Емяльянчык, рэжысёр-кінадакументаліст, аўтар фільма пра Тадэвуша Касцюшку "Паланез для касінераў" Рычард Ясінскі, іншыя прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. Ва ўсіх выступленнях прамаўляліся словы пашаны да вялікага героя XVIII стагоддзя, сына беларускай зямлі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. Але адначасова гучала і занепакоенасць, што на радзіме гэтага вялікага чалавека дагэтуль няма яму помніка, у сталіцы краіны няма вуліцы, названай у яго гонар, не адбудаваны дом, дзе ён нарадзіўся.

Як сказаў Рычард Ясінскі: "Феномен Тадэвуша Касцюшкі быў у тым, што дзе б ён ні быў, ён змагаўся толькі за свабоду". Так, яго дэвіз "За вашу і нашу свабоду" вядомы ва ўсім свеце.

**М.М.**

# ПЛАСТЫЧНЫЯ "ФОРМУЛЫ" ГЕНАДЗЯ БУРАЛКІНА

Выстава скульптуры і графікі Генадзя Буралкіна працягвае сваё падарожжа. Масква, Мінск, Брэст. А цяпер і Гродна, дзе мастак прапрацаваў пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута амаль чатырнаццаць гадоў. З іх два гады ўзначальваў абласную арганізацыю Саюза мастакоў. Тут, на Гродзеншчыне, яго мемарыял "Полымя" ўпрыгожыў горад Ліду, а дынамічны архітэктурна-скульптурны знак — Гродна, у гонар ягонага 850-годдзя.

У горадзе на Нёмане, у цудоўным будынку драматычнага тэатра, загучалі буралкінскія прастораавыя кампазіцыі са шкла і металу, і ў Доме грамадзянскіх абрадаў — такса-ма...

І дзесяткі станковых скульптурных вобразаў-алегорый... І вось — выстава. На гэты раз жыхары слаўнага горада пабачылі не толькі скульптурныя кампазіцыі, але і графічныя, створаныя мастаком за апошнія гады.



Г.Буралкін. "Рух". Малюнак.

Абагульненая і моцная пластыка, мастацкая выразнасць прасторы, адмысловая, далікатная тэкстура — у малюнку: вось асноўныя якасці сённяшняга Буралкіна-мастака.

Такі тып мыслення, звязаны з вострай метафарычнасцю і абагульняючай вобразнасцю, надае пластычным "формулам" Буралкіна нечаканую пранізлівую канкрэтнасць, вызваленую ад стэрэатыпнага, шаблоннага погляду на з'явы і рэчы.

І ў гэтым, на маю думку, галоўная прыцягальная сіла творчасці майстра.

**Б.К.**

# РАДАСЦЬ ТОРЫ

***21 кастрычніка ў памяшканні тэатра музычнай камедыі пад эгідай амбасады дзяржавы Ізраіль у Беларусі адбудзецца канцэрт, прысвечаны гебрайскім восеньскім святам: Рош ха-Шана, Ём кіпур, Суккот і Сімхат Тора.***

*Даведка: 2 — 3 кастрычніка — Рош ха-Шана — гебрайскі Новы год (5758). У гэты дзень у сінагогах чытаюцца асаблівыя малітвы. Падчас святочных трапез належыць есці яблык з мёдам як сімвал "салодкага" года.*

*11 кастрычніка — Ём кіпур — Судны дзень — самы важны і ўрачысты дзень. Гэта дзень пакаяння і посту. Па ўсёй краіне спыняецца праца і рух транспарту.*

*16 — 23 кастрычніка — Суккот — свята Кушчаў, якое нагадвае пра вандраванні гебраяў пасля выхаду з Егіпта. У памяць пра тыя буданы, дзе жылі нашыя продкі падчас блукання па пустэльні, будуюць сукку (будан) каля хаты. Гэта таксама свята восеньскага ўраджаю.*

*24 кастрычніка — Сімхат Тора — радасць Торы. У гэты дзень у сінагогах сканчваецца гадавы цыкл чытання раздзелаў Торы.*

Канцэртную праграму рыхтавалі: Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр, Сусветнае Гебрайскае Агенцтва для Ізраіля САХНУТ, Амерыканскі Гебрайскі Аб'яднаны размеркавальны Камітэт "Джойнт", Коледж Гебрайскіх ведаў Aish HaTorah.

У праграме канцэрта ўзялі ўдзел вядучыя калектывы і выканаўцы Рэспублікі Беларусь: Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь, Ансамбль танца "Харошкі", "Чысты голас", Камерны хор Беларусі, Тэатр пантамімы, "Бліскавіца", Дзіцячы хор Гебрайскага Агенцтва для Ізраіля САХНУТ, Дзіцячы хор Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра "Перлінкі".

# "ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ" Ў МАЗЫРЫ

Адной з першых выязных акцый клуба творчай моладзі "Правінцыял" з Калінкавіч стала выстава, адкрытая ў гарадской выставачнай зале Мазыра. Члены "Правінцыяла" калінкавічане Рыгор Сафронаў і Віталь Бондар, а таксама мазыранін Аляксей Лепін прадставілі свае карціны і графіку.

Выстава атрымала назву "Зямное прыцягненне", бо, як сказаў Рыгор Сафронаў, выстаўленыя карціны сваімі сюжэтамі сімвалізуюць непарыўную сувязь чалавека з зямлёй, яго імкненне да прыгожага і самасцвярджэнне як асобы, што ўладарыць на гэтай блакітнай планеце.

Работы "правінцыялаў" выклікалі вялікую цікавасць з боку наведнікаў выставы, сярод якіх выкладчыкі педагагічнага інстытута і студэнты, настаўнікі гарадскіх школ і вучні, усе тыя, хто цікавіцца мастацтвам.

**Ірына ТРЫПУЗАВА**
*Калінкавічы*

# ЦІКАВЫ ДЛЯ ЎСІХ

Па ўзгодненасці з Міністэрствам культуры, а таксама Міністэрствамі адукацыі і аховы здароўя выдавецтва "Бацькаўшчына" рыхтуе да выдання "Беларускі настольны перакідны каляндар на 1998 год". У новым календары будуць адлюстраваны падзеі гісторыя культуры, станаўленне асветы, навукі на Беларусі. У календары будзе змешчана цікавая інфармацыя пра падзеі нашай гісторыі, юбілеі знакамітых людзей, якія пакінулі значны след у беларускай культуры. У хуткім часе каляндар выйдзе ў свет і паступіць у кнігарні горада.

**А.Р.**

# САМОТА КУФРАЎ



А.Клінаў. З серыі "Адзінота куфраў".

Нямецка-беларускі выставачны праект "Тэксты", што адкрыўся ў музеі Акадэміі мастацтваў, прыцягнуў увагу аматараў андэграўнда. У першы дзень патрапіць да выстаўленых твораў было досыць цяжка. Дадзены праект рэалізаваўся дзякуючы намаганням Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, нямецкаму культурнаму Цэнтру імя Гётэ ў Мінску, Беларускай акадэміі мастацтваў і Культурфоруму Райне. Нягледзячы на тое, што добрая арганізацыя праекта здолела перамагчы абыякавасць грамадскасці, на маю думку, мастакі не зрабілі палацавага пераварогу і не ўсталявалі дыктатуры... нават кволенькай рэвалюцыі не назіраецца.

"Домік Андрэя Басалыгі" — гэтак я б назваў працу, размешчаную ў цэнтры залы. Праз іерогліфы забытай альбо яшчэ не вынайдзенай мовы мастак спрабуе нам распавесці пра гісторыю расійскай літаратуры. Даўно вядома, што некаторыя пастухі і паляўнічыя могуць чытаць па аблачынках і дрэвах лясныя і нябесныя казкі, даведвацца пра будучае надвор'е і г.д. Таму я б дадаў да "Доміка Андрэя Басалыгі" слова — бураломны. Бо наўрад ці, акрамя некаторых паляўнічых, рыбакоў, леснікоў і пастухоў ад мастацтвазнаўства, хтосьці яшчэ здолее нешта тут прачытаць. Словы аднаго з куратараў выставы Марціна Рэкапа пра дыялог з гледачом мне падаюцца крыху эфемернымі.

Як кожная жанчына, Вольга Сазыкіна імкнецца да прыгожага. Але яе не задавальняюць простыя кветкі, бо пялёсткаў на іх замала. Таму мастачка вырашыла сама заняцца творчай селекцыяй і вырошчваць экзатычныя расліны. Адзін з вопытных узораў прадстаўлены на выставе — "Абрус з пялёсткаў". Скрыжаванне "тэкстаў двух людзей, добра вядомых аўтару, прыводзіць да нечаканых вынікаў. Недзе ў аранжарэі, прыстасаванай пад хімічную лабараторыю, нарадзілася кветка — свайго роду продак сённяшніх рамонкаў, ружаў, фіялак, астраў і г.д.

Артур Клінаў працягвае змагацца з кадзіроўкай рэальнага свету. На мінулых выставах гэта былі сімвалы піянеры, цяпер — беларускай прамысловасці і філасофіі, у будучым, магчыма, — афрыканскага кантынента. Англійскі вучоны Пол Дэвіс у сваёй




І.Кашкурэвіч. "Ультрарадыкальны гігіенічны пункт".

кнізе "Суперсіла" піша: "З прычыны нашай няздольнасці "прычапіць" часцінку да пэўнага месца ў выпадку некалькіх часцінак узнікаюць незвычайныя эфекты." Па-мойму, з гэтай прычыны і нараджаюцца ў працах Клінава надзвычайныя кампазіцыі. Серыя "Адзінота куфраў" — гэта вялікая тэкстуальная прастора. Да прыкладу, валіза са слоікамі баршчу (са нечакай капустай вегетарыянскай), ікры кабачковай, бурака марынаванага, шчаўя, павідла яблычнага — гэта тэкст для нашага страўніка. Сентэнцыя мыслення Карла Маркса з прыладамі вымярэння і еўрапейскімі далікатэсамі робіць дадзены твор настольнай энцыклапедыяй для партработнікаў ленінскай школы. Бо каму як не ім трэба як мага болей карыстацца вышэйзгаданымі прадуктамі? Чамусьці ля твораў Клінава ўзгадваецца гарнітур Міцькоў, які быў пашыты адразу на некалькіх чалавек — шматгаловы марак. А на гэтай выставе мы бачым шматгаловую валізу.

Штэрн Халекамп на парозе XXI стагоддзя імкнецца складаць тэксты з вуснаў і зубоў — "Камунікацыя". Прычым своеасаблівасць гэткага цуду ён бачыць праз скарыстанне хворых зубным каменем, парадантозам, стаматытам, хейлітам і г.д. Адным словам, наведнік, стоячы паміж двух экранаў, можа атрымаць: "Сігнал. Мовы. Пасыльнік. Дыялог. Атрымальнік. Знак. Міміка. Сувязь. Інфармацыя. Даты. Тэкст. Прапаганда. Перадача. Глабальная вёска. Дэзінфармацыя. Коды. Шыфры..." і гэтак далей. Выходзіць, што "старэйшы брат глядзіць на цябе". Я заўсёды быў перакананы, што жыццёвы вопыт — гэта таксама глабальны тэкст. Нездарма ж у народзе існуе прымаўка: "Хто не хварэў на ганарэю, не служыў у войску, не напіваўся і не сядзеў у турме, — той не мужчына". Канечне — гэта не ісціна, але таксама тэкст.

Удалая, на мой погляд, кампазіцыя Ігара Кашкурэвіча ўсё ж падаецца гульнёй. Бо сам па сабе твор, без пэўнага тлумачэння ("Увага! Тут знаходзіцца ультрарадыкальны гігіенічны пункт: Сметніца для вушэй. Сметніца для языкоў. Сметніца для вачэй".), страчвае неабходную для дэманстрацыі энергетыку. Гэта мне нагадвае літаратурны перфоманс паэта Іллі Сіна, які бадзяўся па Мінску і чапляў да слупоў улёткі: "Пра ліхтарны дэбілізм". На мой погляд, Кашкурэвіч стаіць каля цікавай ідэі — прыдуманая ім шыльда для сметніц упрыгожыла б не адну вуліцу. Я б назваў дадзеную кампазіцыю прамысловым узорам, гатовым для укаранення.

Самая простая і даволі важкая праца ў Юпа Эрнста. Жалязяка падобная да кавалка блішчастай рэйчыны, на якой выбіта адно слова — "капітал". Сэнсаў узнікае шмат: мабыць на ўвазе "Капітал" Карла Маркса, кошт дадзенай працы ці гэта зброя? Бясспрэчна адно, што цягаць гэтакую працу вельмі нязручна і цяжка. Думаю, што тут схаваны папрок да пакупнікоў карцін: "Бачыце, як дрэнна жывецца творцам?"

Цікавыя працы і астатніх удзельнікаў нямецка-беларускага праекта — Юрыя Дарашкевіча, Ігара Саўчанкі, Аляксандра Дзяталава, ФраймутаКівіш, Пэра Крысціяна Штувэ, Хайнрыха фон дэн Дрыш, Забіны Свобада.

Мастакі хочуць наблізіцца да літаратуры. Зруйноўваецца мяжа паміж двума відамі мастацтва, узнікае "рэвалюцыйная сітуацыя". Гэта файна. Таму, выбачайце, я зусім не разумею слоў аднаго з куратараў праекта — Міхала Баразны: "Чалавек, які імкнецца сёння да рэвалюцыі, спрабуе пальцам размяшаць вядро гіпсу".



Ю.Дарашкевіч. "Тэксты на фоне неба".

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**






КіТы

# "КАБ БЫЛІ ТАЛЕНТ І ТАЯМНІЦА"

**— Віталь Андрэевіч, гаворка наша адбываецца напярэдадні І Нацыянальнага фестывалю беларускага кіно. Як вы ставіцеся да таго, што нарэшце на Беларусі распачынаецца першы нацыянальны форум кінамастацтва?**

— Мяне гэта радуе. Радуе сам той факт, што першы фестываль беларускіх фільмаў нарэшце адбудзецца. І прадстаўнікі беларускай культуры, якія будуць там прысутнічаць, а гэта, як вядома, не толькі прадстаўнікі ад кінамастацтва, сабраўшыся разам, змогуць абмеркаваць фільмы апошніх гадоў. Такое абмеркаванне — непрадузятае, зацікаўленае — нам асабліва патрэбна зараз. Тыя, каму належыць ідэя фестывалю, відаць, добра ведаюць, адчуваюць надзённасць кінематаграфічных праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Асабліва мяне радуе, што падчас фестывалю фільмы паглядзіць аўдыторыя большая як раней.

**— Над чым працуеце зараз?**

— Фільм "Апошняя роля" здымаецца па сцэнарыі Максіма Клімковіча і Уладзіміра Сцепаненкі, у галоўнай ролі Аляксандр Ткачонак. Мы акцэнтуем увагу менавіта на маральна-этычным аспекце. Фільм гэты неадназначны, і нягледзячы на асноўную песімістычную лінію, у фільме пераважае аптымістычная плынь: жыццё працягваецца, яно — няспыннае, яно вечнае.

**— Якія прафесійныя запатрабаванні ў вас да акцёраў?**

— Я ніколі не запрашаю працаваць разам акцёраў "прадстаўленых", "рэкламных". На мой погляд, акцёр павінен быць някідкім, але абавязкова "з нюансамі", каб у ім прысутнічалі талент і таямніца.

**— З чаго звычайна пачынаецца для вас работа над фільмам?**

— Я павінен любіць героя, пасля "прапусціць" яго праз сябе, абавязкова прысутнічаюць суадносіны — ці адпавядае ён мне, майму светабачанню і светаадчуванню, і яшчэ адна ўмова — тэма абавязкова павінна мяне хваляваць і тым самым даваць творчы імпульс.

**— Як вы думаеце, чаму апошнім часам знізілася запатрабаванасць гледача ў беларускім кінамастацтве?**

— Напаўпустыя залы кінатэатраў сведчаць пра тое, што нашы фільмы не адлюстроўваюць "болевые точки" сённяшняга дня, нашай сучаснасці, стужкі выходзяць на экран быццам бы спазніўшыся, з "замаруджанай рэакцыяй" на тыя праблемы, якія хвалююць чалавека ў дадзены момант.

**— Чаму так сталася?**

— Гэта — ад сённяшняй кінематаграфічнай "запрыгоненасці", ад адсутнасці творчай фантазіі.

**— Якія ж прычыны "запрыгоненасці", на вашу думку, у сучасным кінематографе?**

— Для таго каб у кінатворчасці прысутнічаў палёт творчай фантазіі — і гэта датычыцца асабліва кінематографа, — павінны быць для гэтага перадумовы, а гэта азначае падтрымку альбо з боку дзяржавы — а дзяржава пры ўсіх сваіх намаганнях дастатковую колькасць фінансаў выдзеліць не зможа, альбо трэба шукаць фундатара. Карацей, патрэбны сродкі. З другога боку, калі сродкі усё ж такі выдзелены, то ўзнікае залежнасць ад заказчыка. А менавіта сёння як ніколі нам патрэбна творчая свабода, якая ёсць у сусветным кінематографе, ці набліжаецца да яе. Так што мы, беларускія кінематаграфісты, на жаль, залежныя ад шматлікіх абставін, у якіх апынуліся сёння...


Віталь Дудзін і Ганна Яноўская на здымках фільма "Пад небам блакітным", 1989 г.

Алена РЫГОРАВА

***Фільмы Віталя Дудзіна адметныя сваім рэжысёрскім почыркам: стужкі вылучае нягучная, някідкая годнасць, даступнасць, а разам з тым нечаканасць вырашэння дадзенай тэмы. Працуючы на "Беларусьфільме" з 1979 года, рэжысёр мае ў творчай абойме больш як 10 мастацкіх стужак: "Усе грошы з кашальком", "Іван", "Матрос Жалязняк", "Павестка ў суд", "Пад небам блакітным", "Бес", "Птушкі без гнёздаў", "Развітальная гастроль". Мастацкія стужкі Дудзіна не аднойчы адзначаліся прызамі на міжнародных кінафэстах, а ў 1990 годзе на кінафестывалі ў Венецыі ён стаў уладальнікам двух прызоў — "глядацкіх сімпатый" і "сімпатый італьянскіх кінакрытыкаў". Зараз Віталь Дудзін распачаў працу над новым фільмам "Апошняя роля".***


Віктар Ракаў, Віталь Дудзін і Алена Кучарэнка на здымках фільма "Бес", 1990 г.

Акваторы-я!

# ПРЭЧ, НЯЧЫСТАЯ, ПРЭЧ...

## (На спектаклях Гродзенскага тэатра)

Уладзімір МАЛЬЦАЎ,
Аляксандр КАСАРСКІ (фота)

***... На арбіту са сваёй містыфікацыяй выходзіць і Гродзенскі абласны тэатр. На ягонай сцэне М.Абрамаў паставіў "Сейлемскіх вядзьмарак" А.Мілера — п'есу пра жыхароў амерыканскай калоніі XVII стагоддзя, якія былі абвінавачаны інквізіцыяй у ерасі і сувязях з нячыстай сілай, а таксама "Панначку" Н.Садур — твор па матывах і сюжэце "Вія" М.Гогаля.***

### "МОЛАТ ВЯДЗЬМАРАК"

"Чалавек не ёсць толькі "вінцікам" у агульнай плыні жыцця. Ён непасрэдна далучаны да ўсяго, што адбываецца, ён адказвае за кожны свой учынак", — сказаў перад прэм'ерай "Панначкі" М.Абрамаў. Словы гэтыя можна аднесці ў роўнай ступені да ягонага папярэдняга спектакля "Сейлемскія вядзьмаркі". Глядач, заінтрыгаваны назвай, які чакае ад спектакля містыкі, вядзьмарства і эсхаталагічных вучэнняў, яўна памыляецца: экзотыкі моцных паганскіх страсцей, яскравых пачуццяў наогул "Вядзьмаркам" яўна нестае. Гэтая шматпостацевая эпічная фрэска разгортваецца ў спакойных, апавядальных рытмах, у шэрагу амаль статычных, відовішчных мізансцэн. Пры гэтым падзеі п'есы мяняюцца так хутка, што акцёры нібыта не паспяваюць пражыць вымаўлены тэкст, глыбока прапусціць яго праз сябе і толькі акрэсліваюць псіхалагічныя станы сваіх персанажаў. Спектакль можна было б назваць інсцэнізацыяй "сейлемскага працэсу", бо акцэнт у ім зроблены на тым, як шляхам падмены фактаў, шляхам маны і паклёпаў супраць невінаватых людзей выраблявецца "справа". Зло ў спектаклі і ананімнае, і гранічна канкрэтнае. Яно ствараецца людзьмі, але адлучана ад сваіх канкрэтных носьбітаў, якія робяцца ахвярамі сваіх недальнабачных учынкаў.

Здаецца, зусім нядаўна мы зачытваліся "рассакрэчанымі матэрыяламі" следчых спраў НКУС, абураліся бязглуздзіцай "выхлыптаных з пальца" абвінавачванняў, за якія нашыя сваякі і блізкія заплацілі сваімі жыццямі. Сцэна, як і журналістыка, прымушала наноў пражыць мінулае. Словазлучэнне "паляванне на вядзьмарак" робіцца для Гродзенскага тэатра універсальнай формулай падаўлення свабоды і ціску на чалавечыя правы, крылатым выразам на ўсе часы.

Публіцыстычны, антытаталітарны пафас спектакля (шкада толькі, што ён губляецца ў руціннасці сцэнічнай мовы), атрыманы рэжысурай у спадчыну яшчэ ад тэатра стабільных 1970 — 80-х гадоў. Гэты перыяд вылучаў сацыяльнага героя з псіхалогіяй змагара, які рвецца з турмы і не жадае падпарадкавацца агульнапрынятай сістэме сувязяў. Для Джона Проктара (М.Емяльянаў) і ягонай жонкі Элізабет (Л.Волкава) усё, што адбываецца — час выпрабаванняў, лакмусавая паперка на трываласць чалавечых стасункаў. Іх немітуслівыя дуэтныя сцэны, напоўненыя пяшчотай і лірыкай развітання, робяцца самымі жывымі і эмацыйна яркімі эпізодамі спектакля. Першапачаткова не выдзелены з агульнага натоўпу персанажаў фрэскі, герой М.Емяльянава апынаецца ў цэнтры падзей і дэманструе прыхільнасць да ідэй свабоды і незалежнасці.

Прастора дзеяння "Сейлемскіх вядзьмарак" абмежаваная соцыумам, фантастыка ж "Панначкі" пашырае яе да памераў Сусвету. І любімаму Абрамавым героію-змагару тут давядзецца сутыкнуцца ўжо не са злом, якое выклікана грамадскімі адносінамі і выкарыстоўвае чалавечыя слабасці, а з інфернальнай, непрадказальнай "нячыстай сілай", існуючай па-за чалавечымі вымярэннямі. Таму на самай справе спектаклем "Панначка", а зусім не "Сейлемскімі вядзьмаркамі" Гродзенскі тэатр папаўняе галерэю замагільна-д'ябальскіх вобразаў.

### РАСЛІННЫ АРНАМЕНТ УКРАІНЫ

Галоўная вартасць афармлення П.Фейгіна да "Панначкі" — гэта дэкаратыўнасць, што надае своеасаблівы стыль усяму спектаклю. Вялікія сланечнікі — раслінныя сонейкі Украіны — злучаны мастком у вясёлку, што ляціць стужкай нацыянальнага жаночага строя. Каляровая дуга, якая звязвае цяжкія сланечнікі, нібыта акрэслівае паверхню зямлі, над якой зіхаціць велічнае аблічча Уладзімірскай Божай Маці. Усправінцтве зямлі як часткі сусветнай прасторы падаецца мастаком праз нацыянальнае дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва. На чорным фоне, што пазбаўляе сцэну перспектывы і паветранага асяроддзя, усе дэталі афармлення спалучаюцца ў раслінны арнамент. Колеры — гарачыя, паўднёвыя. Мастак кампануе традыцыйныя для народнага мастацтва стылізаваныя арнаментальныя матывы дзеля стварэння абагульняючага (ва ўсіх сэнсах) вобраза Украіны — райскага месца на зямлі. Дэкарацыі П.Фейгіна — амаль плоскае пано, у сярэдзіне якога разгортваецца дзеянне спектакля. Яно нагадвае адначасова і рознакаляровыя сялянскія дываны, і вышыўкі па тканіне, і яркія падносы да хусткі. Украіна адлюстраваная ў сувенірна-дэкаратыўных вобразах народнай

# ХОЧАШ, Я РАСКАЖУ ТАБЕ КАЗКУ?

Таццяна КОМАНАВА

Драматычная праграма фестывалю была разнастайнай. Лялечныя пастаноўкі вылучаліся сваёй яркасцю, жывасцю і даволі высокім прафесійным узроўнем. Спектаклі ішлі адзін за адным. Таямніца першай прэміі лунала да апошняга моманту...

Галоўнымі героямі фестывалю сталі акцёры. Бадай што менавіта яны задавалі тон усім спектаклям. Не адбылося, на жаль, сцэнаграфічных адкрыццяў. Лялькі, як і арганізацыя прасторы, не здзіўлялі навізной. Асноўныя рэжысёрскія пошукі скіраваліся ў напрамку формы спектакля.

### РАЗ КАНЦЭРТ, ДВА КАНЦЭРТ

Узгадваючы лялечныя канцэрты Абразцова, разумееш, што жанр гэты мае папулярнасць у сучасным тэатры, і не толькі ў беларускім. Прыклады таму — спектаклі "Гэта ты... Моцарт?!" мінскага Дзяржаўнага тэатра лялек і "Час нітак" аўстрыйскага Фігурэнтэатра.

Сюжэтная лінія ў спектаклі "Гэта ты... Моцарт?!" цалкам падмяняецца выкананнем оперных арый, пераважна з "Чароўнай флейты". Фантазія Моцарта выводзіць на сцэну Папагену, Зараастра і шмат каго яшчэ. Спектакль будуецца па прынцыпе змены сцэн, часта звязаных паміж сабою даволі фармальна. Лялькі, як такой, у спектаклі не існуе. Рэжысёр І.Мацкевіч імкнецца надаць рысы лялькі самім выканаўцам. У выніку перад намі паўстае тэатр прадметаў і лялечных персанажаў, якія існуюць у адным сцэнічным вымярэнні.

Калі мінскі спектакль набліжаецца да тэатра жывога акцёра, то аўстрыйскі "Час нітак" — стыхія марыянетак. Адна за адною сцэны мінулага і ўспаміны героя складаюцца ў спектакль. Тонкія і зыбкія ніткі ствараюць атмасферу трапяткога страху перад магчымасцю страціць усё гэта. А віртуознасць, з якой Карын Шэфер кіруе лялькамі, можна параўнаць з персанажам спектакля Скрыпачом, што нараджае гукі і ператварае іх у цудоўную мелодыю.

Як расказаць казку? Для лялечнага тэатра гэтае пытанне бадай што эквівалент гамлетаўскага "Быць ці не быць". Апавядальнік у спектаклі стаў такім жа звыклым, як акцёр побач з лялькай. Дзякуючы яму, падзеі спектакля могуць завязвацца і адбывацца ў самых разнастайных месцах.

Польскія Барбі і Кен (Ольштынскі тэатр лялек) трапляюць з лялечнага магазіна да дзяўчынкі, дзе іх чакаюць розныя здарэнні. Неймаверныя баталіі і прыгоды Мюнхгаузена (Брэсцкі тэатр лялек) адбываюцца ў карчме на звычайным стале. "Казку-ланцужок" (Луцкі абласны тэатр лялек, Украіна) акцёры шчодра аздабляюць фокусамі, танцавальнымі і цыркавымі нумарамі.

"Прыхадзень" Гродзенскага тэатра лялек акунае гледачоў у атмасферу містыкі. З'яўленне Прыхадня, здольнага ўваскрашаць мерцвякоў, нараджае прадчуванне апакаліпсісу. Але перш чым усё на сцэне ператворыцца ў халодныя магільныя камяні, Бог стварае зямлю і ўсё жывое на ёй. Крок за крокам, дакладна па Біблії тры святары-акцёры з рытуальнай мернасцю паўтараюць гэты шлях, ствараючы маленькі свет у чорнай прасторы Космасу. Ствараюць, каб аддаць яго лёс у рукі людзям і прымусіць іх задумацца над будучыняй, над тым, хто і якую казку будзе расказваць пра нас.



"Русалачка" Омскага тэатра лялькі, акцёра, маскі "Арлекін".



"Час нітак" аўстрыйскага Фігурэнтэатра.



"Прыгоды барона Мюнхгаузена" Брэсцкага абласнога тэатра лялек.

### ПЕРШЫ СЯРОД РОЎНЫХ

Прыз за лепшы спектакль паехаў у Омск. "Русалачка" тэатра лялькі, акцёра, маскі "Арлекін" уразіла ўсіх. Меладраматызм казкі ператварыўся ў спектаклі ў жарты. З якой іроніяй і гумарам расказвалі акцёры гісторыю кахання бязногай і без'языкай дзяўчыны-рыбіны да звычайнага прынца! Адчуваўся самы сапраўдны садызм у моманты, калі ведзьма адсякала ў Русалачкі язык, калі хвост дзяўчынкі раздзяліўся на дзве нагі, якія ўвесь час крываточылі.

"Там рускі дух!" — хацелася ўскрыкнуць з першых жа хвілін казкі. Але не таму, што са спектакля абсалютна знікла андэрсенаўская рамантыка. Музыка (У.Кузняцоў) і дзве апавядальніцы (С.Еўстрацёнка, Н.Кузняцова) стварылі на сцэне свой свет, які навяваў успаміны пра палотны Кустодзіева, Галавіна.

Сцэнаграфічны вобраз спектакля (мастак В.Вяроўкіна) — шматпавярховая хатка-трансформер. Яна можа быць усім: домам падводнага цара і палацам прынца, пяшчотна-лагодным акіянам, дзе плаваюць самыя разнастайныя рыбкі, і жудасным жытлом ведзьмы. Так жа хутка і самі апавядальніцы ў стылізаваных сарафанах і какошніках пераходзілі ад адной ролі да другой. Лёгкасць, з якой яны праводзілі нас праз усе сюжэтныя перыпетыі, зачароўвала. Нават сам Уолт Дысней мог бы пазайздросціць ім.

### ТОЙ САМЫ МЮНХГАУЗЕН

У адрозненне ад сваіх калег з драмы гаспадары пляцоўкі — брэсцкія лялечнікі — выглядалі даволі прыстойна ў агульнай масе спектакляў. Прыгоды барона Мюнхгаузена, як, уласна кажучы, і сам герой, добра вядомыя ўсім гледачам. І рэжысёр З.Нуянзін не стаў вынаходзіць веласіпед. Мюнхгаузен прадстаў перад намі з традыцыйнай, вядомай па кіно і мультфільмах знешнасцю (І.Герасевіч). Яго гісторыі не вылучаліся навізной, а больш нагадвалі старыя і барадатыя анекдоты. Але галоўным у спектаклі аказаўся не ён, а карчмар (А.Мацвееў) са сваёй жонкай (Т.Тэвасян). Менавіта яны сталі "арганізатарамі" прыгод барона, іх удзельнікамі, хоць і ўскоснымі, і, адначасова, гледачамі. Яны, нібы дзеці, захапляліся гісторыямі Мюнхгаузена, распальваючы азарт і ў гледачоў. Апафеозам спектакля стала бойка з туркамі, калі па сцэне, нібы снарады, лёталі апельсіны, бананы, вінаград і іншая садавіна (бутафорская, зразумела). І не важна, што надышоў ранак і Мюнхгаузен пакінуў карчму, спыніўшы свой расказ на самым цікавым месцы. Галоўнае — не вынік, а сам працэс...

**P.S.** "Гэта ты... Моцарт?!" — спытаў барон Мюнхгаузен, убачыўшы Мікіту Кажамяку. А ён у той момант расказваў Русалачцы казку-ланцужок і заклікаў яе ўступіць у партыю аматараў Барбі. Але час нітак скончыўся і Прыхадзень знік так жа раптоўна, як і з'явіўся.

## ПРЭМ'ЕРА



У Дзяржаўным тэатры юнага гледача новы сезон адкрыўся прэм'ерай — казкай Карла Гоцы "Шчаслівыя жабракі". Гэта музычная трагікамедыя пастаўлена сучаснымі аўтарамі ў стылі пераболышанай пародыі. Інсцэніроўку п'есы Гоцы і пастаноўку спектакля здзейсніў рэжысёр з Масквы Мікалай Шайко.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА**

## АКВАТОРЫЯ — Я!



Сцэна са спектакля "Панначка".

творчасці. А персанажаў можна пазнаць па іхніх шматлікіх адбітках-адлюстраваннях у іншых творах. Дурная дзеўка Хрыська (С.Завадская) — у касцюме з нацыянальнага ансамбля танца. Хлопец Дораш (У.Капранаў) — вялікі, мажны, нерухомы ад вечнага п'янства. Яўтух (В.Смірноў) — з нязменнай люлькай у раскошлівых вусах.

Чым больш сакавітымі і вострахарактарнымі будуць падавацца знаёмыя ўкраінскія тыпажы (не ўсім выканаўцам, праўда, хапае характэрных дэталяў), тым больш настойліва іх адмаўляе чорны фон сцэны. Персанажы робяцца рухомай часткай статычнага дэкарацыйнага афармлення сцэны. І вось у гэтую прыгожую стыхію нацыянальнага жыцця разам з ранішнімі туманамі ўплывае штосьці брыдкае і страшэннае, што палохае хмяльных казакоў. У атачэнні белых дзяўчат-нябожчыц павольна "праплывае" ў спектаклі памерлая Панначка. Яна ў Л.Волкавай — "незямная прыгажуня", з тых служкаў Д'ябла, якія кранаюць нявінныя і безабаронныя мальбою даверлівае сэрца выпадковага вандроўніка. Нібыта няўлоўны прывід, ён з'яўляецца з-пад зямлі альбо ўзнікае з клубоў белай пары. Мерцвяковай бляклацю свайго твару яна адразу ж прымушае ўзгадаць легенды пра тое, што вядзьмаркі паміраюць ад страты крыві і, каб аднавіць свае сілы, яны павінны напіцца цёплай чалавечай крыві. Вобраз нячыстай сілы складаецца ў спектаклі нібыта з асобных, самастойных элементаў. Ля труны інфернальнай Панначкі паводле славянскага абраду Хама Брут павінен прастаяць тры ночы. Вяртаючыся са смерці ў жыццё, з цемры ночы ў асляпляльнае святло дня, персанаж А.Шаўкаплясава праходзіць розныя этапы самасвядомасці.

Спектакль М.Абрамава супрацьстаіць нашаэцію відэафільмаў пра ваўкалакаў і пярэваратняў, дзе дэманструецца вобраз смелага супергероя, які з дапамогай асінавага кія і крыжа перамагае нячыстую сілу. Хама сам, добраахвотна аддае сябе ў якасці ахвяры Д'яблу і ў гэтым бачыць сваё прызначэнне. Герой новага спектакля М.Абрамава не змагаецца з абставінамі, паддаецца. Напалохаўся? Не. Канцэпцыя спектакля абапіраецца на народныя легенды: калі ўжо прывязалася да кагосьці нячыстая сіла, значыць, чалавек загіне. І чым больш ён чапляецца за жыццё, тым мацней нечысць цягне чалавека за сабой у чорную дзірку. Ён — пазначаны.

Толькі чорная вопратка сведчыць пра тое, што Хама Брут — паслушнік і семінарыст. У выкананні А.Шаўкаплясава гэта — шкаляр, бедны студэнт з бурсы, які хоча спазнаць свет не паводле кніжак, а праз людзей. І духоўнасць ягоная не рэлігійна-кляштарная, ён далёкі ад аскетызму і экстатычнага служэння Богу. Духоўнасць ягоная напітана энергетыкай маладосці, яна адкрытая жыццю і адчувае ягоныя перспектывы. Артыст іграе Хаму ў сваёй традыцыйнай манеры: ягоны герой схільны да рэфлексіі і самааценак. Ён заўсёды прыслухоўваецца да ўнутранага голасу і, адгукаючыся на яго, пачынае дыялог з сабою, часам іранічна абараняючы свой уласны свет ад занадта навязлівага навакольнага свету. Для Хамы ўвесь свет пабудаваны разумна і на пачатках ўсеагульнай гармоніі. "Чорная дзірка", што з'явілася раптам, гэта штосьці накшталт азонавай дзіркі альбо амбразуры, якую ён павінен закрыць сабой. Хама заклапочаны сусветнымі пытаннямі. Ён не спрабуе пазбегнуць уласнага наканавання. І вобраз Божай Маці у спектаклі ўзнікае не выпадкова: гэта сімвал самаахвярнага ўчынку Хамы.

**P.S.** Хаатычны, некіруемы, непрадказальны — такім уяўляецца свет у многіх спектаклях замагільна-д'ябальскай вобразнасці. Тут пануе выпадковасць. Зло існуе паўсюль і паглынае ўсё навокал. Такое ўспрыняцце жыцця характэрнае для мыслення многіх мастакоў 90-х гадоў.

М.Абрамаў, так бы мовіць, кансерватыўны. Як і для Хамы, свет для яго ўладкаваны разумна і ўпарадкавана. Таму і ягоны сцэнічны герой застаецца змагаром за... светлую будучыню. Гэта спараджае думку аб тым, што спектаклі пастаўлены чалавекам "стабільнага" мыслення, якое ўжо не ўласцівае сённяшняму пакаленню. Рэжысёр спрабуе ўпарадкаваць тое, што не падлягае ўпарадкаванню. Такім чынам, у пахавальны вянок спектакляў пра нячыстую сілу (дзіўна, але ўсе яны зрабіліся цікавай з'явай апошніх тэатральных сезонаў) гродзенская "Панначка" ўпісваецца вельмі своеасаблівай, не зусім жалобнай, кветкай.

**Вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ВЕЧНЫ ВЫГНАННІК АНАТОЛЬ ЗВЕРАЎ

## (Якім я яго запомніў)

Ён быў бамжом. Ніколі не меў не толькі свайго даху над галавой, але нават і вопраткі. Ён пастаянна насіў чужую.

Для адных ён — п'яніца, немагчымы ў побыце чалавек. Для іншых — геній, які нароўні размаўляе з багамі і лічыць сябе вучнем Леанарда. Для адных — блазен, які адмаўляецца ад усіх матэрыяльных даброт, для іншых — пасланец далёкай планеты, вечны выгнаннік...

А між тым Пабла Пікаса назваў гэтага мастака адным з "лепшых малявальшчыкаў эпохі". Давід Сікейрас на конкурсе сусветнага фестывалю моладзі ў Маскве ўзнагародзіў яго залатым медалём. А Роберт Фальк так сказаў: "Кожны ўзмах пэндзля гэтага жывапісца — каштоўнасць; мастакі такога маштабу нараджаюцца адзін раз на стагоддзе, не мае сэнсу вучыць яго таму, што нам вядома; яму адкрытае тое, пра што іншыя і не ведаюць".

Такія высокія ацэнкі непрызнанага ў Расіі мастака тады, вясной 1977 года, падчас майго знаёмства з ім, мне былі невядомыя. Больш за тое, я нават ніколі да гэтага не чуў ягонага імя...

... Такім чынам, вясна 1977 года. У Маскве адбываўся чарговы пленум камісіі па крытыцы, мастацтвазнаўстве і друку Саюза мастакоў СССР, сябрам якога я з'яўляўся. І вось, напрыканцы пасяджэнння мой прыяцель, маскоўскі крытык Васіль Ракіцін прапанаваў мне "махнуць" у падмаскоўную вёску Вострыкава да ягонага знаёмага мастака. "Ты будзеш уражаны, — шматзначна вымавіў ён. — Толькі трэба абавязкова штосьці ўзяць..."

Узялі "штосьці": тры бутэлькі гарэлкі, піва, каўбасу, сыр, некалькі пачкаў крэветак — і ў дарогу. За рулём — Ігар, гаспадар старэнькай "Победы", мастак-афарміцель, сябар Ракіціна. Выехалі на Бароўскае шасэ... І недзе на перакрыжаванні гэтага шасэ з кальцавой аўтадарогай, ля Бароўскіх могілак, звярнулі направа, праехалі яшчэ троху...

І вось мы — ля старога летніка, абкружанага талым, чорным снегам і яшчэ голымі яблынямі. Гучным брэхам нас сустрэлі два сабакі. Пагрукалі. Выйшаў чалавек далёка не імпазантнага выгляду, супакоіў сабак. Першае, што кінулася ў вочы, — чаравікі, абутыя на босыя ногі, былі такія паношаныя, што хутчэй нагадвалі пантофлі без заднікаў. Запэцканая, незразумелага колеру целагрэйка, такая ж шапка, ускудлачаная, чорная, як ноч, барада, каларытны твар, нібыта высечаны з суцэльнай гранітнай глыбы, і нейкія дзіўныя паводзіны блазна...



Чымсьці ён нагадваў ці то Грышку Распуціна пасля цяжкага пахмелля, ці то зняволенага, які збег з зоны...

Угледзеўшыся, зразумеў: не, паводзіны гэтыя былі яўна "не ягонымі". Таму што глыбокі, дапытлівы, пранізлівы позірк выдаваў у ім чалавека красамоўнага, разумнага, незвычайнага...

Ён сустрэў нас спачатку не вельмі прыязна, хаця Ракіціна ведаў даўно, але калі мы ўвайшлі ў хату і выцягнулі з кайстраў наш сціплы правіянт, гаспадар заўважна палагаднеў.

"Анатоль Звераў", — працягнуў ён мне руку. Калі я сказаў, што з Мінска, — здзіўлена ўскінуў адно брыво: "О, Беларусь? Не давялося бываць. Але кажуць, там добра... Прыгожа, так? Лясы, азёры, балоты, журавіны... І бульба..."

Потым, прыбіраючы дубовы стол ад рэшткаў ранішняй (альбо дзённай) трапезы, прамармытаў: "Хата гэтая не мая... Наймаю яе на зімовы сезон. За гэта — ахоўваю..."

Весела спявала печка, распаленая антрацытам. У левай частцы пакоя — куча палотнаў, знятых з падрамнікаў. Карціны стаялі ва ўсіх кутах, яны былі павернутыя вонкавым бокам да ўсіх сценаў. На падлозе ляжалі стосы старых газет, кніг, малюнкаў, нейкія рэпрадукцыі.

Паселі за стол. Выпілі. Спачатку размова неяк не атрымлівалася. Гаварыў, у асноўным, Ракіцін, распавядаў пра нядаўнюю эміграцыю мастакоў-авангардыстаў Шалкоўскага, Кулакова, Неізвеснага, Кусберга, пра смерць Рухіна і Варазі. Казаў пра маючую адбыцца выставу Валодзі Якаўлева на Малой Грузінскай, пра тое, што прадмову да каталога гэтай выставы мяркуе пісаць ён, Ракіцін; пра толькі што наладжаную выставу жывапісу там жа, на Малой Грузінскай, у якой бралі ўдзел амаль 200 мастакоў. "А ты вось, Анатоль, зусім ад рук адбіўся... Не з'яўляешся ў Маскве, дзе цябе чакаюць..."

Звераў моўчкі соп, пагладжваючы бараду, зрэдку спрабаваў мякка запярэчыць, разводзіў рукамі: "Ну, чаго ўжо ж... Я яшчэ не падрыхтаваны..." Нарэшце, згодна з нашай настойлівай просьбай, неахвотна, ён пачаў паказваць нам свае "пачаркушкі", хутка мяняючы іх на заплямленым фарбамі мальберце.

Гэта быў дзіўны жывапіс, як мне падалося, не даведзены да кандыцыі і незразумела, чым напісаны; шмат малюнкаў з натуры: "гэта з мінулага года" — кветкі, расліны, вожыкі, краты, розныя перапончатыя істоты... Усё было незвычайным, незнаёмым, не падобным ні да чаго іншага. І неверагодна прыцягальным!

Пра свае творы Анатоль не казаў нічога. Маўляў, глядзіце, калі цікава, самі вырашайце, рабіце каментары... Затое пасля другой выпітай бутэлькі "ўдарыўся" ва ўспаміны, якія я на наступны дзень здагадаўся занатаваць. Так бы мовіць, па свежых слядах... Не думаў тады, што калі-небудзь яны спатрэбяцца...

Бацькі Зверава былі з тамбоўскай правінцыі, потым пераехалі ў сталіцу. Бацька, інвалід, уладкаваўся прыбіральшчыкам у Сакольніках; маці, кантужаная яшчэ падчас грамадзянскай вайны, пайшла працаваць на фабрыку. Абодва страшэнна пілі. Натуральна, матэрыяльнае становішча сям'і было вельмі цяжкім. Часта не было чаго есці. Сёстры Анатоля памерлі яшчэ ў маленстве. Такім чынам, дзяцінства будучага мастака прайшло бурліва і па-дзікунску. У школе вучыўся ледзь-ледзь, але сямігодку скончыў. Чым, дарэчы, вельмі ганарыўся: усё ж такі сярэдняя адукацыя. Потым "неяк выпадкова" скончыў двухгадовую мастацка-рамесніцкую вучэльню і зрабіўся жывапісцам-альфрэйшчыкам. З гэтай прафесіі, дарэчы, пачынаў і наш Аляксандр Кішчанка.

Потым Звераў паступіў у Маскоўскую мастацкую вучэльню памяці 1905 года, але з першага курса яго "выперлі з прычыны знешняга выгляду". Аб гэтым ён не шкадаваў: там педагогі, казаў Звераў, "былі несумленныя, з дробязнымі душамі, якія заблыталіся ў цемры".

Што ж да захаплення жывапісам, дык гэта — "ад дзеда", вясковага багамаза-іканапісца...

А далей было войска. Пачаў служыць у флоце. Аднак жорсткая дысцыпліна не спадабалася Звераву. На працягу паўгода ён выкідваў розныя фартэлі, шкодзіў, таму атрымліваў спагнанні. З прычыны таго, што з флоту не звальнялі па ўласным жаданні, кіраўніцтва знайшло мудрае рашэнне: звольніць непапраўнага матроса як "шызафрэніка".

Прыехаў зноў у Маскву, працаваў у розных месцах. Але нідзе прафесійны муляр-альфрэйшчык надоўга не затрымліваўся. Уплываў ягоны "непрымірымы характар", імкненне рабіць не так, "як людзі", а інакш, насуперак, што не заўсёды было зразумела не толькі ягонаму кіраўніцтву, але і калегам. Карацей, адусюль яго выганялі.

Пра адно такое "звальненне" мастак распавёў цэлую навелу. Неяк у парку "Сакольнікі" ён наняўся за 60 рублёў афармляць дзіцячую пляцоўку. Калі праца падыходзіла да завяршэння, з'явілася кіраўніцтва. Заўважыла, што, размалёўваючы аб'екты, Звераў замест пэндзля выкарыстоўвае самую звычайную мяцёлку, венік і таз. Адбылася "буйная размова". Хаця муляр і сцвярджаў, што любоў да мяцёлкі і веніка засталася яму ў спадчыну ад "бацюхны роднага", які ўсё жыццё прапрацаваў прыбіральшчыкам, было загадана працаваць "як трэба". Але мяцёлка і венік, нібыта ў казцы, працягвалі функцыянаваць. І тады адбыўся яшчэ адзін грандыёзны скандал. Раз'юшаны дырэктар крычаў на ўвесь парк: "Хуліган! Мы цябе пашкадавалі, узялі, каб дапамагчы табе, жабраку! А ты нас сароміш! Ідзі прэч!"

Але каб усё выглядала законна для звальнення Зверава без разліку, дырэктар выклікаў з Кузнецкага мосту экспертаў, якія, на ягоную думку, павінны былі канчаткова "дабіць" муляра.

Прыехала эксперт, вядомая мастацтвазнаўца. Агледзела працу і кажа: "Дык гэта ж — шэдэўр!" Зафіксаваўшы сваё меркаванне, яна паехала. Дырэктар і ягоныя паслугачы ледзь не звар'яцелі. Супакоіўшыся, яны пачалі ўгаворваць мастака напісаць заяву "па ўласным жаданні". Абяцалі за гэта разлічыцца і нават даплаціць да 60 рублёў яшчэ 30. На гэтым і пагадзіліся...

Увогуле Звераў быў чалавекам незвычайным, больш дакладна — "нетыповым" для свайго часу. Ён ніколі не падпарадкоўваўся чужому меркаванню, яму было напляваць на ўсе аўтарытэты, калі ён іх не прызнаваў сам, асабіста.

Не заангажаваны ніякай "структурай", не абавязаны ў сваёй працы нікому і нічым, самотны ў сваім выбары, ён інтуітыўна дакранаўся да такіх істотных, глыбінных, звонку не матываваных пластоў часу свайго існавання, што рабіўся, як Звераў сам сябе называў, вечным "анталагічным падарожнікам".

Толькі ў самім сабе знаходзіў ён і звыклыя імпульсы, што прымушаюць яго маляваць, і культурна-філасофскія прынцыпы, і тут жа, на пэўнай глыбіні, Звераў апынуўся перад праблемай сваёй уласнай веры, сваёй рэлігіі, у якой боскае, прыроднае і чалавечае былі непадзельна звязаны.

Аднак, магчыма, гэта мае асабістыя меркаванні... Але дакладна адно: пазбаўлены нават мізэрнага пачуцця прагматызму, ён заўсёды рабіў толькі тое, што падказвала яму сумленне, светаўспрыняцце. Ягонае жыццёвае крэда вызначалася толькі адным — імкненнем да творчай, духоўнай і асабістай свабоды. Усё астатняе яго не цікавіла.

Добры па натуры, Звераў ніколі ні на кога не скардзіўся, не памятаў зла, быў зусім далёкі ад зайздрасці, суперніцтва, барацьбы за асабісты аўтарытэт. Ніколі нікога не крытыкаваў, не асуджаў, нібыта жывучы паводле вядомага евангельскага запавету. У чалавеку ён цаніў толькі ягоныя асабістыя якасці, так бы мовіць, агульначалавечага плану: дабрыню, шчодрасць, справядлівасць, гасціннасць.

Пазней я даведаўся пра яшчэ адну ягоную рысу: у яго цалкам адсутнічала пачуццё ўласніка. Усё, што меў, не хаваў і ахвотна з усімі дзяліўся. Нават зробленую ім выпіўку і харчы дзяліў на ўсіх, нічога не прыхоўваючы "на потым". Заканчвалася, да прыкладу, зіма, цяплела, і ён, скінуўшы з сябе паліто, кідаў яго ў бліжэйшую сметніцу. Туды ж ляцела і шапка...

**Барыс КРЭПАК**

*(Далей будзе)*

# СМУТАК І РАДАСЦЬ УЛАДЗІМІРА І ТАМАРЫ ВАСЮКОЎ



*Т.Васюк. "Барбара Радзівіл". Шамот, паліва.*

28 кастрычніка ў рэспубліканскім Палацы мастацтва адкрываецца выстава мастакоў Уладзіміра і Тамары Васюкоў. Смутак і радасць — вось дэвіз экспазіцыі. Уладзімір звязвае смутак з болем і памяццю пра лёс ягонай "малой радзімы" — Хойніцкага раёна, што трапіў пад колы страшэннай чарнобыльскай бяды. Радасць Тамары — у вяртанні беларускай спадчыны ў сённяшні дом, у адраджэнні той крыніцы, якая сілкавала сваёй жывою вадой герояў яе твораў — нашых вялікіх продкаў — Еўфрасінню Полацкую і Рагнеду, Барбару Радзівіл і Радзівіла Чорнага...

Уладзімір пакажа 25 вялікіх алоўкавых танальных кампазіцый, звязаных з бацькоўскай хатай, што апынулася ў трагічным палоне радыяцыі. Замест кветак і птушынага спеву — мутанты, напаўрыбы-напаўкаровы; пачвары, якія з'явіліся з птушыных яек: няўжо гэта — нашая будучыня?



*У.Васюк. "Стоды". Аловак.*

А побач — белая кераміка Тамары: святло ды каханне... Памяць. Памяць пра мінуўшчыну і надзея на будучыню. Як жа жыць без надзеі на духоўнае і зямное адраджэнне?

Што яднае гэтых двух мастакоў? Высокая маральнасць. Родная зямля як крыніца іхніх творчых прыхільнасцяў. А форма, тон і прастора — асноўныя крытэрыі іхніх твораў...

**Б.К.**

**Фота Андрэя СПРЫНЧАНА**



*Дзівосы на калёсах!*

# АДКУЛЬ ПАЙШЛІ АМАЗОНКІ?



Сумуючы тут па сваёй Вінніцы, я атрымаў нечаканы падарунак (не назаўсёды, а каб прачытаць) — "Слоўнік старажытнаўкраінскай міфалогіі" С.Плачынды, "вядомага пісьменніка, літаратуразнаўцы і лінгвіста, краязнаўцы і этнографа", які выдадзены ў кіеўскім выдавецтве "Украінскі пісьменнік" у 1993 годзе.

Прачытаў і падумаў: на цэлыя чатыры гады спазніўся я на духоўнае свята Украіны. Аказваецца, я любіў яе несвядома, а цяпер, дзякуючы шаноўным спадарам С.Плачындзе, а праз яго і аўтару "Магутнай Веры" (украінскай "Бібліі") Л.Сіленку, якая ўбачыла свет у ЗША памерам у 1427 старонак, — дзякуючы ім, я цяпер ведаю, чаму люблю тую зямлю, дзе нарадзіўся.

І я вырашыў напісаць гэтыя нататкі з адной толькі мэтаю: каб не было так крыўдна, што мы не трапілі на гэтае святкаванне.

Я бяру на сябе смеласць перакласці для вас з украінскай мовы тое, што буду цытаваць далей, бо "Слоўнік старажытнаўкраінскай міфалогіі" С.Плачында выдаў у Кіеве і ні на якой іншай мове, акрамя ўкраінскай, ён і не мог быць выдадзены.

Ужо ў прадмове лётаюць такія "кулі", што на нагах не можа выстаяць ніводзін нармальны чалавек.

Трымайся, чытач, перакладаю!

"Украінская міфалогія — найстаражытнейшая ў свеце. Яна стала падмуркам для ўсіх індаеўрапейскіх міфалогій, гэтаксама, як старажытнаўкраінская мова — санскрыт — стала першакрыніцай усіх індаеўрапейскіх моваў". Тут я ўявіў сабе выраз твару ўсіх гісторыкаў-мовазнаўцаў і выкладчыкаў курса "Уводзіны ў мовазнаўства", якія гэта прачытаюць...

А цяпер пойдзем "па літарах". Мяркую, што ўжо пасля першай цытаты "прызвычаіцца" будзе не так цяжка, — цяжэй будзе зразумець.

"Амазонкі — вайсковая суполка старажытнаўкраінскіх жанчын III — I тысячагоддзяў да новай эры". У гэтым жа артыкуле тлумачыцца, што амазонкі стаялі ля вытокаў узнікнення новага магутнага народа — сарматаў, назва якога паходзіць ад сар-маты, цар — маты ("маты" — па-ўкраінску значыць "маці". — **Н.Ц.**) А цармаці таму, што ў сарматаў жанчына (амазонкі ж!) мела права голасу.

"Анты — першапачатковая назва воінаў (першаказакаў) старажытнаўкраінскіх плямён, якія насялялі Ілірыю і іншыя тэрыторыі старажытнай Італіі і Грэцыі. (...) Наколькі анты — людзі надзвычайнай фізічнай сілы і высокай духоўнасці — мелі ўплыў на старажытны свет, сведчыць той факт, што з іхнім імем звязаны вялікі гістарычны перыяд у гісторыі чалавецтва: антычны свет, антычная культура і да т.п.

... Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ладу краіна антаў была першай у гісторыі старажытнай Украіны унітарна-цэнтралізаванай дзяржавай, якая дазволіла аб'яднаць усе старажытнаўкраінскія плямёны ад Венедскага (Балтыйскага) мора да мора Эўксінскага (Чорнага) і ад Лабы (Эльбы) і Одры (Одэра) да Дона. Сталіцай Антыі-Украіны быў Кіеў". (...) У далейшай барацьбе супраць готаў і іншых варварскіх плямёнаў анты аб'ядналіся з гунамі і іх узначаліў кіеўскі ваявода Атыла".

Вось як. І не больш. Словаў немагчыма знайсці, а адно толькі ўзнікае, кажучы мовай С.Плачынды, "старажытнаўкраінскае" здзіўленне, якое яшчэ больш умацоўваецца пасля таго, як даведваешся, што "ў саюзе з гунамі Антыя-Украіна дасягнула новага росквіту і яшчэ больш узвысілася".

А хто ж такія венеды? Вы, мабыць, думалі (і ведалі) да С.Плачынды, што гэта хтосьці італьянскі? Правільна! Але яшчэ і "адно са старажытнейшых і наймагутнейшых старажытнаўкраінскіх плямёнаў", якое, часткова перасяліўшыся з Падолля ў XIV —XIII стагоддзях да новай эры ў Паўночную Італію, заснавала Венедскую дзяржаву. На паўночнай ўскраіне Венедыі жылі старажытныя ўкраінцы, якія ў гістарычных крыніцах называліся крайнамі, крайнянамі, украінцамі". Вось вам і "этымалогія" ператварэння. Яна простая і лёгкая, як і, дарэчы, усе простыя ісціны, якія знаходзяцца на паверхні жыццёвага акіяна.

Такім чынам, гісторыя ствараецца сёння. А вось як узнікаюць матэрыяльныя рэаліі, скажам, гарады: "Венеды заснавалі горад Венедыю, якую цяпер называюць Венецыяй". А венеды — гэта ўкраінцы... І фракійцы — таксама старажытнае ўкраінскае племя, а "валхвы — старажытнаўкраінскія святары", і "пад іх кіраўніцтвам старажытнаўкраінскія плямёны і суполкі засялялі Індыю, Месапатамію, Малую Азію, Палесціну, Егіпет, Паўночную Італію, востраў Крыт, Заходнюю Еўропу..." А тут, разумееш, прыйшоў князь Уладзімір і ў 988 годзе перахрысціў усіх украінцаў, а валхвоў пачаў фізічна знішчаць, і з прычыны гэтых цкаванняў і пераследаў былі страчаны навуковыя веды ўкраінцаў ва ўсіх галінах нацыянальнай культуры. "988 год стаў пачаткам экалагічнага і дэмаграфічнага крызісу на Украіне".

Вось як яно было на самай справе. А вы, напэўна, думалі, што наадварот. Вы не мелі рацыю, як і ўся сусветная гісторыя, якая не супадае з меркаваннямі Л.Сіленкі і С.Плачынды.

Думаю, вам падасца цікавым (але ўжо не новым), што "этрускі — русіны, русы — старажытнаўкраінскае племя, якое перасялілася з Прыкарпацця ў Паўночную Італію і стварыла дзяржаву Этрусію". Далей распавядаецца, як этрускаў разбілі галлы (мне нават дзіўна было даведацца, што галлы — гэта не старажытнаўкраінскае племя, а ўсяго толькі нейкія кельты) і "на костках старажытных украінцаў пабудавалі Рым, які паглынуў этрускаў і іхнюю культуру". І — "на багатай этрускай (старажытнаўкраінскай) культуры расквітнела культура Эллады і Рыма..." (!) А мы ж да сённяшняга (светлага) дня — 31 траўня 1993 года — і не ведалі, каму абавязаныя зямной калыскай культуры: у гэты дзень рукапіс "Слоўніка..." быў падпісаны ў друк.

С.Плачында часцяком цытуе "Мага веру" ("Магутную Веру", украінскую "Біблію") Л.Сіленкі, які "даводзіць", што гіксасы і гуты — гэта старажытнаўкраінскія плямёны. У сваёй кнізе ён скарыстоўвае вытрымку з твораў амерыканскага навукоўца Джона Вільсана: "Гіксасы, будучы выхадцамі з Егіпта, пабудавалі горад Ерусалім, прыблізна на 500 гадоў раней за ўваход ісідаў у Ханаан. Ханаане называлі гіксасаў "русамі". Гэтыя русы пабудавалі горад Русасалем, гэта значыць, "прытулак русаў". Ад гэтай назвы ўтварыўся Ерусалім". Вось і амерыканец дапамог старажытным украінцам — такім шляхам замацоўваецца навуковае супрацоўніцтва розных краін і народаў, старажытных і вельмі старажытных, такіх, як, да прыкладу, украінцы, якія маюць за плячыма (калі верыць Л.Сіленку) ажно сем тысяч гадоў, а "... Заратустра і Будда па паходжанні былі старажытнымі ўкраінцамі"... Аўтар "Украінскай Бібліі" "прасочвае гістарычны шлях старажытных украінцаў, якія неслі культуру апрацоўкі глебы ў свет па наступных напрамках: Украіна — Індыя — Кітай — Вавілон (Месапатамія) — Егіпет — Палесціна — востраў Крыт — Гітыя (тэрыторыя сучаснай Турцыі) — Італія — Грэцыя — Ацтэкі — Перуані — Заходняя Еўропа". Але гэта — справы зямныя, а памянёныя аўтары і да нябесных жыхароў дабраліся. З пэўнага боку, безумоўна. С.Плачында цытуе свайго старэйшага духоўнага брата Л.Сіленку: "Тут аўтар справядліва адзначае сутнасць Бібліі і Майсея: "Майсей быў не лепей за хана Батыя, Адольфа Гітлера або Іосіфа Сталіна"...

"Род — першы бог у старажытнаўкраінскай міфалогіі, пачынальнік усяго жывога". І вось менавіта ён, гаспадар усяго жывога, і аддаў самую лепшую зямлю, Аратанію, сваім дзецям — украінцам. Габрэі, можаце адпачыць! С.Плачында вызваліў вас, нарэшце, ад цяжкага жэрабя.

Спрадвечныя спрэчкі (на ўзроўні дзіцячага садка) пра тое, хто "для маці-гісторыі" больш каштоўны, выглядаюць аперэтачнымі. Гора і нястачы ва ўсе часы хапала на ўсіх. "Возьмёмся за руки, друзья, чтоб не пропасть поодиночке..." Яшчэ чаго захацелі! Лезуць — хто з-за кута, хто з-за "бугра" — новыя "месіі".

Але нам усё гэта даўно знаёмае. Калі і ёсць тут нешта новае, дык гэта — маштаб прэтэнзій гэтых двух "старажытных" украінцаў — маштаб надзвычайнага захвату, нібыта нож цяжкага бульдозера. Толькі ў апошнія дзесяцігоддзі мы даведаліся пра тое, як ствараюцца міфы больш, чым за ўсю сваю гісторыю. Тут ні Л.Сіленка, ні С.Плачында — не першаадкрывальнікі, бо гісторыя ведае дастаткова "сачыненняў на адвольную тэму". Можна пасмяяцца, пакруціць "у захапленні" галавой — і ўсё на гэтым. Калі б...

У "Слоўніку..." цытуецца "духоўнае крэда" Настаўніка Сіленкі: "Мае родныя людзі, падманутыя і абрабаваныя, стаяць на каленях перад абразамі старых біблейскіх (створаных уяўленнем равінаў) герояў-іудзеяў. І моляцца ім. Яны (украінцы) просяць выратавання ад іудзеяў. Моляць іудзеяў, каб яны ім (украінцам) адзінства падарылі і Украіну выратавалі.

І кажу я: "Людзі, мае родныя, ідзіце да мяне, я дасланы душою продкаў вашых, я выведу вас з дома зняволення. Узнясу вас. Я сцярплю ад вас абразы, плёткі і папрокі і павяду вас шляхам свяшчэннага духоўнага адраджэння, каб на зямлі бацькоў сваіх вы былі гаспадарамі. Каб былі вы лепшымі з лепшых. Каб было ў вас сваё разуменне Бога і сваё разуменне саміх сябе".

Пасля гэтай цытаты С.Плачында дадае толькі два радкі пра тое, што "Магутная Вера", якая мае статус украінскай "Бібліі", павінна стаць настольнай кнігай — кнігай жыцця, кнігай духоўнасці кожнага ўкраінца".

Калі б у "Слоўніку..." нічога больш не было, акрамя гэтага "крэда" і заклікаў С.Плачынды пакласці гэтую "біблію" на сэрца сваё", дык і гэтага павінна быць дастаткова, каб Украіна (ды і не толькі яна) уздрыгнулася. Колькі ж іх было ў сапраўднай чалавечай гісторыі, "дасланых душою вялікіх продкаў", каб вывесці "родных людзей з дома зняволення"? І чым скончваліся дзеянні гэтых "вялікіх пакутнікаў за народную справу"?

"Воно тоби трэба, га?" — так кажуць у мяне на Замосці, калі высвятляецца, што ты пачынаеш нявартую альбо несумленную справу. Няўжо без гэтай паранаідальнай тэорыі "першароднасці" ты ўжо — не Украіна? Трэба маліцца, каб справа не пайшла далей гэтых кніг, таму што далей — яшчэ адзін гістарычны тупік, завалены трупамі.

Няўжо Бернард Шоу не проста пажартаваў, як заззвычай, а мудра прадбачыў: калі гісторыя і вучыць нечаму, дык толькі таму, што людзі нічому не могуць навучыцца.

... Я злавіў сябе на думцы, што пачаў усур'ёз спрачацца з аўтарамі "вялікай кнігі" і "кнігі шчырасці". А трэба ж толькі адно: звярнуць увагу чытачоў на яшчэ адну спробу знайсці "цэнтр Сусвету" і — ускараскацца на сусветны п'едэстал. А інтарэсы народа тут ні пры чым.

**Навум ЦЫПІС**
*Брэмен*

# ТАБАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ



Усяго толькі суткі таму мы стаялі на беразе Свіслачы ў Мінску, і вось нас ужо сустракае велічная Прага — маці ўсіх гарадоў, як кажуць чэхі. Мы па ледзь заўважных фрагментах пазналі Пражскі Град, Карлаў мост з гатычнымі скульптурамі; уваткнутыя ў неба завостраныя вежы сабора святога Віта; зялёны купал сабора святога Мікулаша; таксама добра знаёмы дах Нацыянальнага тэатра і Тынскі храм... Па ўзгорках, якія абкружылі цэнтральныя раёны сталіцы, было раскідана шмат маленькіх домікаў з чарапічнымі дахамі, якія здалёк здаваліся дэкарацыяй да дзіцячага фільма-казкі.

Нас, студэнтак другога курса першага ў Беларусі аддзялення багемістыкі філфака БДУ, запрасілі ў Чэшскую Рэспубліку Фонд Францыска Скарыны і кафедра эканомікі і тэхнікі турыстычнага руху Паўднёвачэшскага універсітэта, якая знаходзіцца ў Табары, невялікім гарадку на поўдні Чэхіі, недалёка ад добра вядомых усім па "Прыгодах бравага ваякі Швейка" Чэшскіх Будзеёвіц.

Асноўнай мэтай нашага візіту была вучоба: нам чыталі лекцыі па гісторыі і літаратуры Чэхіі (ад пачатку да перыяду барока). А паколькі самі выкладчыкі былі патрыётамі Паўднёвай Чэхіі і, да таго ж, набліжалася свята горад Табара, нам чыталася, па сутнасці, гісторыя Табара ў кантэксце падзей ва ўсёй краіне. А перыяд гусіцтва мы, наведаўшы музей, катакомбы і Котнаў, вежу з экспазіцыяй прадметаў сярэднявечнага побыту, ведалі як мае быць.

Але заняткі заняткамі, яны адразу адышлі для нас на другі план, калі ў першы наш уік-энд у Чэхіі Табар адзначаў свята горада — "Табарскія сустрэчы". Шосты год праводзіўся гэты фестываль славянскіх і неславянскіх культур. На яго запрашаюцца ўсе жыхары і госці горада з усёй краіны, са Славакіі, Украіны, Польшчы, Нямеччыны, Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі і г.д. Спадзяюся, што ў наступны раз на гэты фестываль запросяць і якія-небудзь беларускі калектыў для прадстаўлення культуры Беларусі.

Што было найцікавейшым, незвычайным? Феерверк, факіры, сярэднявечны кірмаш, шыбеніца, медавіна (па беларуску медавуха) — гэта яшчэ не ўсё! Увесь горад пераапрануўся ў маскарадныя касцюмы. На вечаровай вуліцы можна было сустрэць вядзьмарку ў жудасным адзенні і з размаляваным тварам... І — вось жах! — яна накіроўваецца да вас! Зразумела, вы спрабуеце ўспомніць замову ад чараўніцтва. Але адкульсьці выскокваюць рыцары ў сапраўдных латах, вядзьмарка міла вам усміхаецца, вы атрымліваеце пацалунак ад выратавальнікаў — усё як у казцы!

У гэтыя тры дні Табар гасцінна адчыняе дзверы ўсіх музеяў, галерэй, выстаў, канцэртных залаў (у большасці сваёй — памяшканні касцёлаў). Маючы на руках пропуск (універсальная "ўступэнка" каштавала каля двух з паловай даляраў), вы маглі б пры жаданні пазнаёміцца з гісторыяй і культурай некалькіх нацый.

Вялікім сюрпрызам для нас стала выстава твораў чэшскіх мастакоў, якія пабывалі ў Беларусі. Праходзіла яна на Котнаве, называлася "Беларусь-97: уражанні і ўспаміны". Сярод карцін на выставе было шмат сюжэтаў, звязаных з жанчынай. А таксама пейзажы — беларускія рэкі, напісаныя ў спакойных сінезялёных фарбах з эфектам глыбіні, празрыстасці. Былі яшчэ шаржы, алоўкавыя эскізы, што парадзіравалі рэаліі дзвюх дзяржаў — Чэхіі і Беларусі.

Сюрпрыз чакаў нас і ў Празе, дзе мы правялі цэлы дзень, ахвяраваўшы заняткамі. Да помніка Скарыне, які там устаноўлены, мы не паспелі, але зусім нечакана, ля Клеменцінума, іезуіцкага універсітэта, дзе зараз знаходзіцца нацыянальная бібліятэка, убачылі на сцэне дошку са знаёмым тварам.

"Францыск Скарына з Полацку выдаў тут у 1517 годзе Псалтыр..." "Гэта Скарына?" — пачуліся галасы нашых дзяўчат. Тэкст, прыведзены вышэй, быў на чэшскай і старабеларускай мовах. Вось калі адчуваеш сапраўдны, а не эфемерны гонар за сваю краіну — калі табе прад'яўлены факт памяці і павагі да твайго земляка з боку іншай дзяржавы. Адразу адчуваеш адказнасць, быццам выконваеш дыпламатычную місію.

У чым жа магнетызм Табара? Лечыць ён знясіленае бетоннымі каробкамі дамоў чалавечае вока і брукамі, і маленькімі дамкамі, і вузкімі пераплеценымі вулачкамі.

Калі ж крочыш па ціхай табарскай вулачцы, і крок за крокам адчуваеш, як набіраешся сіл, ужо не здзіўляешся. Хто можа адказаць, каму даводзілася ступаць у даўніну па гэтым бруку? Можа быць, каралям...

Бывай, Табар!

**Таццяна АСКЕРКА,**
**студэнтка філфака БДУ**

# KUNSTHALLE ЗНАХОДЗІЦЬ У АМЕРЫЦЫ СВАЕ КАШТОЎНАСЦІ,

**канфіскаваныя Савецкай Арміяй паўстагоддзя таму і вывезеныя, натуральна, на Усход.**

Бясцэнныя гравюры старых майстроў, што належаць брэменскай Kunsthalle, знойдзены ў выніку шматмесячных пошукавых мерапрыемстваў у Нью-Ёрку. Паводле дадзеных брэменскай пракуратуры, амерыканскай паліцыяй накладзены арышт на дванаццаць твораў (агульным коштам 18 мільёнаў нямецкіх марак), сярод якіх ёсць нават творы Дзюрэра і Рэмбранта. У спробе незаконнага продажу гэтых каштоўнасцяў абвінавачваецца 60-гадовы японец.

Kunsthalle заявіла, што восем з дванаццаці шэдэўраў належаць без сумнення Брэмену. Найважнейшы твор — гравюра Дзюрэра "Купанне жанчын".

У 1943 годзе для большай бяспекі чатыры тысячы карцін з Брэмена былі перавезены ў брандэнбургскі замак Карцнаў. У 1945-м яны былі вывезены савецкімі войскамі ў СССР. У 1993 годзе дванаццаць памянёных твораў нейкім чынам апынуліся ў адным азербайджанскім музеі, у Баку, дзе яны і былі выстаўлены для наведнікаў. Там іх убачыў японскі аматар еўрапейскага мастацтва Матацугі Кога, які зноў жа нейкім чынам здолеў набыць гэтыя гравюры, ведаючы пры гэтым, што купляе, па сутнасці, крадзенае.

Паводле заявы Kunsthalle, упершыню прапанова выкупіць гэтыя гравюры была зроблена яшчэ тры гады таму, але тады штосьці не атрымалася. Сёлета адзін японец зноў зрабіў такую прапанову. Пасля сустрэч з ім у Брэмене быў прызначаны тэрмін сустрэчы ў Нью-Ёрку. Дзякуючы гэтай выпадковасці ўдалося вызначыць — не без дапамогі пракуратуры і дэтэктываў з мытні, безумоўна, — што гутарка на самай справе ідзе пра сапраўдныя шэдэўры. Кога быў арыштаваны амерыканскай паліцыяй адразу пасля таго, як прапанаваў прадстаўніку брэменскага музея і пераапранутаму следчаму набыць іх.

Гаротны аматар крадзеных гравюр быў цяжка хворы. Грошы ад продажу твораў мастацтва ён меркаваў скарыстаць на трансплантацыю ныркі.

Шанцы на вяртанне шэдэўраў у Брэмен эксперты ацэньваюць як добрыя. Дзякаваць за гэта трэба дастаткова падрабязным савецкім спісам твораў, канфіскаваных у замку Карцнаў. Хаця, безумоўна, давядзецца спачатку дакладна высветліць, ці тыя гэта гравюры. Потым трэба будзе знайсці абсалютна надзейны спосаб дастаўкі твораў з Амерыкі ў Германію.

Пра гэтую знаходку распавялі многія нямецкія газеты. І толькі адна газета "Bild" угледзела ў гэтай азербайджанска-японска-амерыканскай гісторыі "хітрыкі рускай мафіі". Падстава: некаторыя сустрэчы з Кога адбываліся на Брайтан-Біч ("das russische Viertel des Stadtteils Brooklin", паводле меркавання "Bild"), а ў момант яго затрымання палова гравюр была ў яго, другая ж палова — у трох рускамоўных "партнёраў па бізнесе" японца, якія спакойна чакалі ў тым жа рэстаране заканчэння перамоваў.

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# "Я — БЛАЗАН ШЧАСЦЯ"

Больш за месяц працавала ў Kunsthalle Дзюсельдорфа выстава Генрыха Гейнэ, а плынь наведнікаў не спынялася. Літаратурная экспазіцыя надае Гейнэ цалкам новае аблічча. Уласныя тэксты Гейнэ з'яўляюцца зыходнай кропкай для выбару карцін, дакументаў і экспанатаў, што знаёмяць са светам паэта.

Два паверхі Kunsthalle, больш за 1 800 квадратных метраў плошчай, 70 вітрын, сем залаў аддадзены пад гэтае грандыёзнае шоу. Карціны прадстаўлены шэдэўрамі з Францыі (у тым ліку са збору Луўра), Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Італіі, Германіі, Швейцарыі. Акрамя гэтага, у залах — скульптуры, гравюры, мэбля, ужытковыя рэчы, любімыя кветкі Гейнэ, элементы панарамы і дыярамы, бюст Напалеона і г.д. Ненавязлівая музыка, створаная на ягоныя тэксты, стварае атмасферу свята. Тут жа прадстаўлены дасягненні сучаснай тэхнікі: галаграмы, спяваючыя вусны, манекены, апранутыя ў касцюмы французскіх барабаншчыкаў, якія адбіваюць рэвалюцыйныя маршы. Чароўныя дзяўчаты бліскуча выконваюць фрагменты з твораў Генрыха Гейнэ. У выставе бярэ ўдзел Школа Моды з Кёльна, заалагічная крама з Дзюсельдорфа, музеі са шматлікіх краін.

У падрыхтоўцы выставы ўдзельнічалі: інстытут Генрыха Гейнэ пад кіраўніцтвам прафесара доктара Ёзефа Крузэ, гарадскі Kunsthalle сумесна з Таварыствам мастацтваў зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія і музеем мастацтваў Дзюсельдорфа. Мадэратар гэтага цудоўнага супер-шоу — мастак Волькер Гойслер.

Дэвізам выставы абраныя словы "Ich Narr des Glücks" — "Я — блазан шчасця", запазычаныя Генрыхам Гейнэ з "Рамеа і Джульеты" Шэкспіра. Арганізатары лічаць, }што гэтыя словы, якія Гейнэ звяртаў да самога сябе, цалкам адпавядаюць зместу выставы.

# КРЫЖАВАНКА




**Па гарызанталі:**

5. Творчы работнік у галіне выяўленчага мастацтва. 6. Цвёрдая горная крышталічная парода, розных колераў для архітэктурных і скульптурных работ. 10. Славуты зборнік вершаў М.Багдановіча. 11. Беларускі спявак XX ст., народны артыст БССР (лірыка-драматычны тэнар). 12. Лёгкая бавоўняная з набіўным малюнкам тканіна. 15. Горад, абарончы замкавы комплекс XIV — XV стст. у Літве. 16. Частка будынка, памяшканні якой знаходзяцца на адным узроўні. 17. Жаночае імя. 18. Твор Э.Заля. 21. Фільм беларускага кінарэжысёра XX ст. Б.Сцяпанава. 23. Погляд. 27. Перыядычнае выданне ў выглядзе кніжкі. 29. Тварам да таго, хто глядзіць. 30. Кароткі літаратурны твор алегарычнага зместу з павучальнай канцоўкай. 31. Опера нямецкага кампазітара XVIII — XIX стст. К.Вебера. 32. Горад у Аўстраліі, заснаваны ў 1788 г. англійскімі каланістамі.

**Па вертыкалі:**

1. Старадаўні французскі танец. 2. Славеснае паведамленне пра якія-небудзь падзеі. 3. Упрыгожанне, якое надзяваецца на шыю. 4. Мастацкі прыём у творах літаратуры, заснаваны на паказе чаго-небудзь у камічнай дабрадушна-смешнай форме. 7. "Тайная ...." — карціна Леанарда да Вінчы. 8. Пасудзіна ў выглядзе вялікай чаркі. 9. Пісьмовы знак азбукі. 13. Беларускі і рускі народны музычны інструмент. 14. Масавая народная гульня, якая суправаджаецца танцамі, песнямі. 19. Надзвычайныя прыродныя здольнасці. 20. Роспіс сцен вадзянымі фарбамі, нанесенымі на свежаатынкаваную сцяну. 22. Танцы. 24. Гістарычны раман польскага пісьменніка Б.Пруса. 25. Вандроўны беларускі музыка-пясняр. 26. Рэчыва, што надае той ці іншы колер прадметам. 28. Від тэатральнага мастацтва.

**Крыжаванку склала Любоў ІОНАВА**

# СВОЕЧАСОВА НЕ АЦАНІЎ

Як часта мы пачынаем цаніць штосьці, толькі гэта страціўшы...

Здаецца, на гэты раз сваю страту ацаніў вядомы галівудскі акцёр і рэжысёр і не менш вядомы Казанова — 42-гадовы Кевін Костнер. Амаль 16 гадоў трывала ягоная жонка і маці ягоных трох дзяцей Сіндзі здрады мужа, які не мінаў ніводнай магчымасці пагуляць з сімпатычнымі дзяўчатамі. Вынікам ягонага апошняга рамана з 34-гадовай Брыджыт Руні стаў цудоўны малы Ліям. Не ведаю, ці хацела пляменніца дзядзькі-мільянера набыць свае ўласныя мільёны або заваяваць самога Кевіна, калі публічна заявіла: "Костнер — бацька майго дзіцяці". Сам тата працяглы час адмаўляўся ад бацькоўства, пакуль медыцынскі тэст не пацвердзіў: "Ліям — сын Кевіна." У выніку Брыджыт атрымала не Костнера, але амаль 20 мільёнаў марак ад былога каханка. А новаспечаны тата атрымаў развод.

Цяпер марай Кевіна стала вяртанне ў сям'ю. "Я ўсё яшчэ кахаю Сіндзі", — гаворыць ён з сумным позіркам і ўсюды знаходзіць спачуванне. Пакаянне пасля апошніх любоўных прыгод не пакідае яго. Увесь свой вольны час Костнер аддае дзецям, нават адмаўляецца ад некаторых кінапраектаў, каб мець магчымасць быць з дочкамі і сынам. "Быць татам — гэта мая самая цудоўная і важная роля", — кажа ён. І спадзяецца, што з дапамогай дзяцей здолее зноў заваяваць сэрца былой жонкі Сіндзі...

А можа, калі б яна выгнала яго дзесяць гадоў таму, Кевін Костнер ужо тады б ацаніў сваю жонку?

# ЧАГО ХОЧА ЖАНЧЫНА, ТАГО ХОЧА БОГ

Але толькі Бог ведае, чаго яна хоча. І яшчэ — сацыёлагі.

Жанчыны любяць падарункі, любяць сюрпрызы, любяць кветкі. Мужчыны, звычай, робяць падарункі сваім каханым пераважна ў першыя месяцы знаёмства, выказваючы пры гэтым ухвальную вынаходлівасць, якая з цягам часу кудысьці незваротна знікае. Ніводная з дам, якія адказвалі на пытанне: "Хто вырашае ў Вашай сям'і, дзе правесці адпачынак?", не адказала: сёлета я атрымала падарожжа ад майго мужа ў падарунак. "Калі размова ідзе пра тое, каб набыць што-небудзь прыгожае сваім жанчынам да дня нараджэння альбо на гадавіну вяселля, многія мужчыны проста губляюць фантазію, — гаворыць Джэніфер Він, нью-ёркскі псіхолаг. — Большасць з іх часта не маюць ніякага ўяўлення пра тое, чаго на самой справе чакаюць ад іх жанчыны".

Для тых, хто жадае зрабіць сваёй цудоўнай палове жаданы сюрпрыз да свята, — вынікі апытання 2232 жанчын ад 18 да 59 гадоў.

Самым вялікім попытам карыстаюцца не ювелірныя вырабы ці парфума, а падарожжы — 54,2 працэнта альбо паездкі на курорты санаторнага тыпу — 34,7. Трэцяе месца займае рамантычная вячэра з партнёрам — 34,4. Упрыгожанні — 27,8. Добра ўспрымаюцца таксама пакаёвыя расліны або посуд. Грошы ў якасці падарунка любяць атрымліваць толькі 20 з сотні апытаных жанчын. Самы тыповы падарунак у апошнюю хвіліну — парфуму — жадаюць толькі 0,6 працэнта.

Чаму? Джэніфер Він лічыць, што жанчынам проста надакучылі адны і тыя самыя "сюрпрызы" штогод. Ён часцей за ўсё не ведае, якая парфума ёй больш за ўсё падабаецца.

"Самым істотным для жанчыны з'яўляецца не кошт падарунка, а тое, каб ён быў выбраны з каханнем у сэрцы", — кажа псіхолаг.

**Паводле матэрыялаў замежнага друку падрыхтаваў Навум ЦЫПІС**

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ПЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 23.10.97. у 16.00.

Замова 6293

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.